ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

20 КАСТРЫЧНІКА 1995 г. № 42 (3814) Кошт 2 500 руб.





# НОВАЕ АБЛІЧЧА — НОВАЕ ІМЯ

Як паведамляе каляндар, сёлета ў гэтага калектыву — "круглая" дата. Пяцідзесяцігоддзе. Багаты творчы век, пазначаны самымі рознымі падзеямі, якія фарміравалі аблічча юбіляра — тэатра ў горадзе над Бугам. Заснаваны ў пераможным 45-м, у гераічным Брэсце, драматычны калектыў атрымаў і адпаведнае імя — імя Ленінскага камсамола Беларусі. Імя, якое дзесяцігоддзі не сыходзіла з яго афішы і вось — адышло ў гісторыю. Зразумела, змяніўся час, змянілася аблічча тэатральнай трупы, змяніўся нават выгляд самога будынка — і з'явілася ў мастацкім жыцці Беларусі новая назва: Брэсцкі тэатр драмы і музыкі.

У перабудаваным, рэканструяваным, прыгожым доме пачаў свой сёлетні сезон перайменаваны тэатр. Пачаў з намерам падтрымліваць усё лепшае, што назапасіла яго паўвекавая гісторыя, шукаючы духоўнага кантакту з сучасным гледачом, імкнучыся не згубіць сябе ў няпростых сацыяльна-эканамічных стасунках. На юбілей тэатра завіталі прадстаўнікі шматлікіх устаноў і арганізацый Брэста, пасланцы іншых тэатраў. Прыйшло віншаванне і ад прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі.

Здымкі, зробленыя карэспандэнтам БЕЛТА Э. Кабяком, адлюстроўваюць атмасферу ў абноўленым тэатры: вы бачыце яго галоўнае фае, а таксама момант віншавання брастаўчан калегамі-тэатраламі з Мінска на чале з народнай артысткай рэспублікі Ліліяй Давідовіч.



# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***На мінулым тыдні шмат хто чакаў з'яўлення першых барыкадаў на прэзідэнцкім шляху да дыктатуры. Аднак ні М. Грыб, ні БНФ, ні ПКБ, ні паасобку, ні разам не сталі ініцыятарамі іх пабудовы. Не хочацца думаць, што не скарыстаны падараваны Канстытуцыйным судом практычна апошні шанц нейкім чынам адхіліць змрочную перспектыву. Бо заўтра можа быць позна — падзеі могуць развівацца амаль па Б. Васільеву: "Заўтра была... дыктатура". Прэзідэнт часу дарма не губляе, сваю ўладу ўмацоўвае і, як ён казаў, паступова "ператрахвае кадры". З сілавых міністраў "першага прызыву" пры пасадзе застаўся толькі У. Ягораў. Шчыра прызнацца, не зусім зразумелым было ягонае з'яўленне ў лукашэнкаўскім "кабінеце", яшчэ больш не зразумелы ягоны "імунітэт" да ўсіх змен...***

## *АДСТАЎКА ТЫДНЯ*

Яшчэ ў мінулую пятніцу генерал Ю. Захаранка ва ўсіх цэнтральных газетах абвергнуў чуткі аб ягонай магчымай адстаўцы. А ў панядзелак прэзідэнт падпісаў указ аб звальненні Ю. Захаранкі з пасады і прызначэнні в. а. міністра МУС дзяржасакратара Савета бяспекі В. Шэймана. Былы міністр, як сумленны грамадзянін, і сапраўды да апошніх хвілін выконваў свае абавязкі, ажно пакуль да яго ў кабінет не зайшоў В. Шэйман разам з 8 супрацоўнікамі аховы і не зачытаў указ. Кабінет міністра адразу ж быў апячатаны. Чуткі, як бачыце, былі небеспадстаўнымі, а адстаўка цалкам прадказальнай. Занадта "самайстойным" стаў апошнім часам міністр унутраных спраў, бо дазваляў сабе выказваць нязгоду з некаторымі ўказамі прэзідэнта... Што ж, цяпер, пэўна, нарэшце знікнуць з "ЗЮ" штодзённыя зводкі злачынстваў па краіне, каб не псаваць імідж уладаў, што адкрылі межы для расійскіх злачынцаў. Справа зроблена і навошта "бударажыць людзей і нагнятаць абстаноўку"... Дарэчы, верталётаў у мінскім небе, якія павінны, згодна з рашэннем прэзідэнта, кантраляваць крымінагенную сітуацыю ў сталіцы, пакуль не бачна.

## *ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ*

Аднавіўшае "гістарычную назву" агенцтва БЕЛТА свой рэпартаж з другога з'езда Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі назвала лаканічна і ёмка: "Аляксандр Лукашэнка: "Эканоміка не церпіць папулізму". Вучыцеся, хлопцы...

## *ПЛЕБІСЦЫТ ТЫДНЯ*

Гэты рэферэндум адбыўся ў хай сабе і далёкай, але яшчэ адной вельмі прэзідэнцкай і вельмі дэмакратычнай, да таго ж — чырвона-зялёнай дзяржаве — Іраку. Аднагалосна народ выказаўся за працяг паўнамоцтваў яшчэ на 7 гадоў горача любімага правадыра Садама Хусейна. Ды і як не выкажашся, калі ў бюлетэні трэба было ўказаць сваё імя, прозвішча і дакладны адрас. Каб ведалі, куды ехаць і каго браць...

## *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

"...Я праціўнік палітычнага аб'яднання з Расіяй. У нас свая дзяржава, свая мова, свае людзі. Інакш мы заўсёды будзем расійскімі халопамі. І большасць разумных людзей падзяляе мой пункт погляду. Расія піла, п'е і піць будзе".

*(З інтэрв'ю трохразовага алімпійскага чэмпіёна, прэзідэнта Асацыяцыі грэблі на каноэ Уладзіміра ПАРФЯНОВІЧА газеце "Прэсбол", N 41 за 17 кастрычніка).*

## *АДСТУПЛЕННЕ ТЫДНЯ*

На рамонтным заводзе N 140 (?), што ў горадзе Барысаве, па рашэнні прэзідэнта аднаўляецца знішчэнне танкаў, якое было некалі прыпынена прэзідэнтам жа з-за адсутнасці сродкаў. Сродкі, дарэчы, так і не з'явіліся: знішчэнне вядзецца за кошт нашай краіны. Спроба шантажу Захаду нічога не дала, акрамя страты Беларуссю свайго іміджу краіны прыстойнай ва ўсіх адносінах. Пасля ўсіх ранейшых заяў нашага прэзідэнта і спроб пагандляваць лішняй тэхнікай аднавіць былы аўтарытэт і атрымаць грошы будзе надта цяжка. "Единожды солгав..."

## *ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ*

Дэкан факультэта журналістыкі БДУ Алег Слука прызначаны памочнікам прэзідэнта Беларусі. Каментуючы гэтае прызначэнне, журналісты рэспубліканскіх выданняў сыходзяцца на тым, што нічога нечаканага ў гэтым няма: А. Слука ўваходзіць у склад партыі генерала А. Баранкевіча, якая не перастае падкрэсліваць сваю падтрымку курсу прэзідэнта.

## *КАМПРАМІС ТЫДНЯ*

Чарговае пасяджэнне Канстытуцыйнага суда, прызначанае 17 кастрычніка, не адбылося. Па просьбе прэзідэнта разгляд справы "Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь указа прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 верасня 1995 года N 349 "Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян" адкладзены на няпэўны тэрмін. Перад кампрамісам на "дыване" ў Прэзідэнта, кажуць, пабываў В. Ціхіня, а пасля — Канстытуцыйны суд у поўным складзе.

## *НАМЕР ТЫДНЯ*

На наступным тыдні прэзідэнт Беларусі наведае ЗША. Там ён выступіць на сесіі Генеральнай асамблеі ААН, сустрэнецца з кіраўнікамі многіх дзяржаў свету, у тым ліку і Украіны. Пра магчымыя сустрэчы з кіраўнікамі ЗША афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі пакуль не паведамлялі. Беларуская дыяспара рыхтуецца да "годнай" сустрэчы першага прэзідэнта Беларусі на амерыканскай зямлі.

## *ЭМІГРАЦЫЯ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт фірмы "Пушэ" А. Пупейка паведаміў на прэс-канферэнцыі, што фірма згортвае сваю дзейнасць на Беларусі да лепшых часоў. Прычына — занадта моцны падатковы прэс, які не дазваляе прадпрыемствам нармальна функцыяніраваць. Асноўную дзейнасць цяпер фірма "Пушэ" будзе ажыццяўляць на Украіне.

## *ЗНАХОДЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ*

У калгасе імя Суворава Крычаўскага раёна, паведаміла "ЗЮ", вырасцілі сёлета добрую бульбу. Выбралі яе, нарыхтавалі на насенне, на корм жывёле... а астатнюю куды падзець? Выручылі суворяўцаў браты-славяне з Украіны, у якіх былі свае праблемы: яны не ведалі, куды збыць віно "Алігатэ" ў трохлітровых слоіках. Бартэр адбыўся. І атрымалі суворяўцы вінцо ў залік (і замест) палучкі...

З нагоды

# "НІ БОГ, НІ ЦАР І НІ ГЕРОЙ..."

Сённяшняя сітуацыя ў Беларусі нагадвае стары, "застойных" часоў, анекдот.

Выказаў высокі замежны госць генсеку здзіўленне, што ў Савецкім Саюзе не бывае страйкаў. Для дэмакратычнай краіны, маўляў, страйк — з'ява нармальная, а калі рабочыя не бастуюць, значыць, баяцца. Значыць, няма дэмакратыі тут. І загадаў тады генсек прадэманстраваць замежнаму госцю савецкую дэмакратыю і арганізаваць узорна-паказальны страйк. І вось на абраным для гэтай мэты заводзе не выплацілі рабочым законную прэмію, потым затрымалі аванс, потым не выплацілі зарплату, абедзенны перапынак скасавалі... А людзі нібыта не заўважаюць, нібыта не з імі гэта робяць. І толькі калі адміністрацыя (завода) прыгразіла масавымі карамі, што заўтра на заводскім пляцы людзей будуць вешаць — зрэагаваў народ. Запытаўся: "Вяроўкі з сабою прыносіць, альбо на месцы забяспечаць?"

Прашу ў чытачоў прабачэнне за гэты "барадаты" анекдот, сёння сапраўды не да жартаў. Калі і ёсць што смешнае ў нашым жыцці, дык гэта заробкі большасці працуючага насельніцтва краіны. Чаго, на жаль, не скажаш пра цэны. Без папярэджанняў, без гучных абвестак, паціху, але няўхільна паўзуць уверх цэны на малако, хлеб, іншыя прадукты першай неабходнасці. На гарэлку, без якой шмат хто не ўяўляе свой рацыён. Ужо не надта пагаворыш з хатняга тэлефона — дорага! Падвышак кошту электраэнергіі і газу — пытанне часу і чакаць засталося нядоўга. Дзяржава не здольная абараніць грамадзян ад беспрацоўя, "запусціць" заводы, але ж баіцца аддаць непрацуючыя і стратныя прадпрыемствы ў прыватныя рукі, баіцца запусціць механізм асабістай выгады і асабістай адказнасці. Баіцца рынку — болей, чым жабрацтва.

Гэтаму абсурду яшчэ можна было б знайсці нейкае тлумачэнне, калі б прэзідэнт і ягонае бліжэйшае асяроддзе верылі ў камунізм. Аднак рэальныя справы прэзідэнцкай адміністрацыі супярэчаць дэкларатыўным заявам. Калі мы будуем хай сабе і "рыначны", але сацыялізм, дык чаму ж тады прэзідэнцкі "завхоз" сп.Ціцянкоў цягне ў сваю да нейкай ступені "прыватную" (але ў любым выпадку не агульнанародную) гаспадарку ўсё, што ні трапіць на вока?

Мяркую, што ў бліжэйшы час на гэтай глебе ўзнікне канфлікт паміж прэзідэнтам і камуністамі. Тым болей, што ў новым парламенце апошнія разам з аграрыямі (камуністычнага кшталту) складаюць абсалютную большасць. Камуністы могуць нагадаць сп.Лукашэнку пра неадпаведнасць прэзідэнцкіх спраў прэзідэнцкім словам. Мо таму з боку прэзідэнта ўжо і паляцелі каменьчыкі ў камуністычны агарод. Яны, маўляў, не лепшыя за нацыянал-радыкалаў. Гэта пакуль — прыстрэлка. Бой — наперадзе. У народа-жабрака шмат "абаронцаў". Дарма прэзідэнт лічыць, што гэта роля запісана за ім пажыццёва.

Дарэчы, пра сацыялізм, "рынкавы" ў прыватнасці. Было б памылкаю меркаваць аб сацыялізме толькі па крывавай бальшавіцкай калектывізацыі і індустрыялізацыі на касцях вязняў ГУЛАГа — таксама, як меркаваць пра Хрысціянства толькі па злачынствах інквізіцыі. Нездарма на Захадзе сацыялізм прысутнічае ў назвах шэрагу рэспектабельных і ўплывовых палітычных партый, там сацыялісты звыкла адчуваюць сябе ў верхніх эшалонах улады. Аднак калі нашы камуністы, разважаючы аб "перавагах сацыялізму", спасылаюцца на Фінляндыю, Швецыю, Японію альбо на Злучаныя Штаты Амерыкі, гэта па меншай меры смешна. Нельга адначасова лічыць сябе спадкаемцамі РКП-ВКП(б)-КПСС і спасылацца, як на сваё, на дасягненні сваіх "класавых" ворагаў. Тут трэба альбо рашуча рваць з мінулым, альбо не ківаць на Захад — вось, маўляў, наша тэорыя, рэалізаваная на практыцы. Дарэчы, "рынкавы сацыялізм" — гэты скрадзены ў заходніх эканамістаў і крыху перайначаны для мясцовых вушэй тэрмін "сацыяльна арыентаваная эканоміка". На Захадзе ўжо зразумелі (навучыў усё-такі Уладзімір Ільіч багатых лічыцца з беднымі), што лепей, калі эканоміка не супярэчыць маралі, і багаты дзеля ўласнага спакою павінен дбаць не толькі аб прыбытку, але і аб тым, каб колькасць "парламентарыяў" і іншых люмпенаў не дасягнула выбухова-крытычнай масы. А што маецца на ўвазе пад "рынкавым сацыялізмам", ведае, мабыць, толькі сам аўтар гэтага словазлучэння.

Апошнім часам пайшлі гаворкі, нібыта пасля таго, як Масква вельмі холадна сустрэла панславісцкія захады прэзідэнта Беларусі, а Захад рэзка адмоўна зрэагаваў на інцыдэнт у беларускім небе і на гвалт са свабоднымі прафсаюзамі, А. Лукашэнка стаў больш памяркоўным. Ён нібыта амаль "даспеў" да ўсведамлення неабходнасці дэмакратыі і эканамічнай рэформы па заходнім рэцэпце. І цяпер дай божа, каб ён не перадумаў. Дэмакраты, маўляў, павінны забыць крыўды і дапамагчы "маладому палітыку" засвоіць эканамічны "ликбез". Думаю, што такія спадзяванні — беспадстаўныя. "Малады палітык" робіць стаўку выключна на сілу і толькі з сілай лічыцца. Гэта бачна на прыкладзе адносін Лукашэнкі з Канстытуцыйным судом. Дастаткова было суддзям прадэманстраваць прынцыповасць у абароне Канстытуцыі, як прэзідэнт "даў задні ход", хоць і зрабіў выгляд, што нічога асаблівага не адбылося.

Сродкі масавай інфармацыі занадта манументалізуюць асобу прэзідэнта, а ён, між іншым, "ні бог, ні цар і ні герой", а ўсяго толькі першы чыноўнік дзяржавы, які прайшоў на сваю пасаду па агульнанацыянальным конкурсе. Канстытуцыя прадугледжвае звальненне з пасады, калі гэты чыноўнік у сваіх дзеяннях выходзіць за межы Закона. Зрэшты, у сп.Лукашэнкі ёсць шанцы паўтарыць лёс Міхаіла Гарбачова. Спачатку ўся вялікая краіна мучылася пытаннямі "С кем вы, Михаил Сергеевич?", а потым яму пазванілі з Віскулёў, каб паведаміць, што прэзідэнт СССР з гэтага моманту знаходзіцца ў бестэрміновым адпачынку. І ніхто, дарэчы, не заступіўся! А як любілі!..

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Варункі

# "ПРЭЗІДЭНТ ВЫКЛІКАЎ КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД ДА СЯБЕ"

Фраза гэтая прагучала з вуснаў старшыні Камісіі па заканадаўстве Вярхоўнага Савета Дзмітрыя Булахава на прэс-канферэнцыі спікера парламента Мечаслава Грыба 17 кастрычніка і была адказам на пытанне аднаго з журналістаў, чаму сарвалася пасяджэнне Канстытуцыйнага суда, прызначанае на раніцу таго ж дня.

Мне давялося быць тады ў судзе і я бачыў, як былі шакіраваны запрошаныя ў КС людзі, у тым ліку і прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, які ініцыіраваў разгляд чарговага прэзідэнцкага указа на прадмет адпаведнасці яго Канстытуцыі краіны, калі літаральна за пяць хвілін да пачатку пасяджэння было аб'яўлена, што яно не адбудзецца.

За апошні тыдзень — другі такі выпадак. Першы, калі быў адкладзены на няпэўны тэрмін разгляд зноў жа на адпаведнасць канстытуцыйным нормам, зноў жа ініцыіраваны Вярхоўным Саветам Указ прэзідэнта N 336 "Аб некаторых мерах па забеспячэнні стабільнасці і правапарадку ў Рэспубліцы Беларусь". Вось цяпер — прэзідэнцкі Указ N 349 "Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобых катэгорый грамадзян".

"Замест таго, каб самому ці ў асобе свайго прадстаўніка прысутнічаць у Канстытуцыйным судзе на разглядзе ўказа, — сказаў Д.Булахаў, — прэзідэнт "по простоте душевной" выклікаў суд да сябе".

Праўда, ён не ўдакладніў, у якім адзенні з'явіліся ў прэзідэнцкі кабінет суддзі — у звычайным, будзённым, ці ў мантыях, якія, да слова, надаюць ім незвычайную ўрачыстасць і значнасць.

Слухаючы ўсё гэта, міжволі думалася, як усё-такі любім мы выдаваць жаданае за сапраўднае, як лёгка паддаёмся эйфарыі, не маючы дастатковай для гэтага падставы. Варта было Канстытуцыйнаму суду прыняць рашэнне аб неканстытуцыйнасці прэзідэнцкіх указаў, што тычыліся бюджэту і легітымнасці Вярхоўнага Савета, як дэмакратычная грамадскасць краіны паспяшалася абвесціць КС "галоўнай крэпасцю рэспублікі па абароне законнасці" ("Народная газета" ад 7—9 кастрычніка 1995 г.).

Сякія-такія падазрэнні адносна надзейнасці гэтай "галоўнай крэпасці" ў мяне асабіста ўзніклі, калі слухаў я прамову А.Лукашэнкі на з'ездзе прафсаюзаў, асабліва тое месца, дзе гаварылася пра дасягнутыя дамоўленасці і ўзаемапаразуменне са старшынёй Канстытуцыйнага суда В.Ціхінем, пра нейкую нібыта існуючую апазіцыю ў нетрах самога суда. Ну, а калі ў той прамове прэзідэнт недвухсэнсоўна даў зразумець, што ўсе галіны ўлады бяруць пачатак ад аднаго ствала, а ствалом гэтым з'яўляецца ён, прэзідэнт (а ніяк не Канстытуцыя, як ва ўсім цывілізаваным свеце), дык усё становіцца на сваё месца.

Але вернемся да згаданай прэс-канферэнцыі М.Грыба, на якой, дарэчы, прысутнічала рэкордная колькасць прадстаўнікоў мас-медыя (людзі стаялі ў праходах немалой залы прэс-цэнтра Вярхоўнага Савета). Падазраю, што гэткая цікавасць да сустрэчы са спікерам парламента была прадыктавана яго апошнім артыкулам, змешчаным у "Народнай газеце" і "Звяздзе", артыкулам, дзе былі прадэманстраваны і яснае бачанне таго, што адбываецца ў краіне, і палітычная воля, і жаданне паставіць усе кропкі над "і", а не самой досыць аморфнай тэмай прэс-канферэнцыі, якая тычылася ўдзелу нашай парламенцкай дэлегацыі на чале з М.Грыбам у дзвюх міжнародных сустрэчах: сесіі парламенцкай асамблеі Савета Еўропы ў Страсбургу і 94-й канферэнцыі міжпарламенцкага саюза ў Бухарэсце. Інфармацыя Мечаслава Іванавіча аб пытаннях, якія там разглядаліся, аб тым, з кім ён сустракаўся і гутарыў, была ўспрынята прысутнымі, трэба сказаць, досыць абыякава, слухалі ўсё гэта, як кажуць, у паўвуха, за выключэннем паведамлення пра тое, што на канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза яе арганізатарамі была зроблена спроба паставіць на парадак дня пытанне аб пагрозе ўвядзення на Беларусі прэзідэнцкага праўлення з уласцівым для гэтага тыпу краін уціскам усіх дэмакратычных свабод. "Наша

Меркаванне

# НЕ НАШКОДЗЬ!

Нешта адбываецца. Нейкія няўлоўныя токі пранізваюць паветра нашага з вамі жыцця і надаюць яму пранізлівасць восеньскага золку. Штосьці не то спее, не то насоўваецца, не то даўно ўжо выспела і проста чакае свайго часу, каб выбавіцца з цянётаў патаемнасці і ўяўнага неіснавання.

Ніхто не жыве літаратурай, нават самі пісьменнікі. Яны, праўда, яшчэ пішуць, звыкла разносяць творы па рэдакцыях, але не стала адчування (прынамсі, у многіх) **сэнсу** гэтай працы і гэтага спосабу самавыяўлення. Ды і ў рэдакцыях пануе дзіўнаваты — пры нібыта блізкім рынку — штыль. Адны супрацоўнікі адыходзяць у больш грашовыя новыя выданні, другія бягом паспяваюць адразу ў некалькі месцаў — сумяшчаюць пасады, трэція, больш сталага ўзросту, ужо нікуды не збіраюцца (ды і не могуць) бегчы, а толькі трымаюцца за свае парадзелыя, раскіданыя гіганцкай цэнтрыфугай калектывы.

І тут справа не толькі ў матэрыяльным фактары, у недахопе сродкаў на жыццё (а іх, вядома ж, не стае). Дух дзелавітасці, працоўнай гарачкі апаноўвае ўсё больш людзей. І тых, хто раней спакойна жыў на зарплату. І тых, хто любіў падгуляць у асяроддзі няўклюднай мінскай багемы. І нават тых, хто духам падняўся да містыкі і высокіх сакральных ісцін. Праца. Вось самая асноўная прыкмета сённяшняга дня, перадумова таго самага рынку, што не зыходзіць з вуснаў і ніяк не прыйдзе ў эканоміку, кіраванне, гандаль, сродкі масавай інфармацыі. Рынак спеліцца ў грамадскіх стасунках, у асобных падыходах, у самой ментальнасці, у гэтым золкім паветры перамен.

Перамены затрымаліся. Тое, што ў свой час так па-буйному праляцеў В.Кебіч — відавочнае сведчанне наступнага: людзі хацелі перамен, нутром адчувалі іх неабходнасць. Нават на грашовыя падачкі галоўнага кандыдата ў прэзідэнты не клюнулі. Яны звязвалі свае неўсвядомленыя спадзяванні з Аляксандрам Лукашэнкам — чалавекам нязвыклага палітычнага іміджу і нетутэйшага эмацыйнага напору.

Спачатку нейкі рух нібыта назіраўся. Найбольш — вакол асобы самога пераможцы. Адны людзі прыходзілі ў яго каманду, потым гэтак жа імкліва і невытлумачальна сыходзілі. Другія ж прыходзілі, каб асесці, укараніцца і гнуць сваю лінію. Прэзідэнту нічога падчас не заставалася, як выдаваць яе за сваю.

З'яўляліся новыя галіны ўлады, расстаўляліся новыя кадры, адбываліся буйныя грамадскія акцыі (рэферендум), рабіліся новыя дзяржаўныя крокі (на інтэграцыю з Расіяй). І ўсё не тое — ні тыя галіны, ні кадры, ні акцыі, ні крокі. Усё гэта выдае на бачнасць "бурнай дзейнасці" пры поўнай адсутнасці дзяржаўных падыходаў і больш-менш збалансаванай палітычнай лініі, пры вартай жалю нydатнасці карэнным чынам змяніць наша жыццё ў русле сусветных эканамічных стандартаў.

Вось і маем тое, што маем. Брак патрыятызму пры пастаянных апеляцыях да народнай думкі. Голую рыторыку, якая ўсё часцей разыходзіцца са справай, хоць пакуль што і падтрымлівае ілюзіі малаграматнага палітычна нашага насельніцтва.

Эканоміка ўпарта не жадае "запускацца". Яна як той грузавік з рэкламнага роліка, дзе ўпацелы Філатаў круціць завадную ручку. Ну не рэагуе яна на састарэлыя структуры і камуністычны стыль кіраўніцтва! Нават тэле-шоу з распяканнем міністраў на яе ўздзейнічае мала. І каб прыхаваць гэты невясёлы для ўсіх нас факт, ва ўсю круцяцца ідэалагічныя махавікі.

Было б не так і блага, каб пры адсутнасці рэальных зрухаў, рэальных рэформ, рэальнай **карысці** пара проста ішла ў свісток — у палкія прамовы, рашучыя пагрозы, шчырыя абяцанні і да т.п. Дык не ж! Непрадуманыя словы падхопліваюцца і ператвараюцца ў дзеянне. Дадатковымі статысячнымі тыражамі выпускаюцца рускамоўныя падручнікі, перабудоўваюцца "наадварот" адукацыйныя ўстановы, даведзена да крызісу заканадаўчая ўлада Беларусі, так званыя "славяне" спяць і сняць міністэрскія партфелі, разгараюцца апетыты расійскай імперскай брацii.

"Не нашкодзь!" — дэвіз не толькі медычнага кодэксу. Мо найбольш ён тычыцца таго, хто ўзяў на сябе смеласць і адказнасць у такі няпросты, пераломны час "сесці за руль" дабітага айчыннага грузавіка.

**Г.КАРЖАНЕЎСКАЯ**

---

дэлегацыя зрабіла ўсё, каб пераканаць дэлегатаў саюза ў памылковасці такога падыходу да нашай краіны, дзе дзейнічаюць дэмакратычная Канстытуцыя, дэмакратычныя інстытуты", — паведаміў М.Грыб. Адразу пасыпаліся пытанні, навошта трэба было пераконваць дэлегатаў "у памылковасці", ведаючы, што ўсе гэтыя нашы "дэмакратычныя інстытуты" на самай справе не больш, чым фікцыя, што Беларусь на вачах ператвараецца ў аўтарытарную краіну? Спікер растлумачыў, што, выступаючы за межамі рэспублікі, заўсёды імкнецца паказаць яе з прывабнага боку, чым кіраваўся ён і ў Бухарэсце.

А наогул Мечаслаў Іванавіч дэманстраваў на прэс-канферэнцыі ўласцівы яму алімпійскі спакой, што не так ужо і блага, калі ён не з'яўляецца праявай інертнасці характару, імкненнем не абцяжарваць сябе "лішнімі" клопатамі.

Вось некалькі ўзораў прагучаўшых на прэс-канферэнцыі пытанняў і адказаў на іх спікера. "Мечаслаў Іванавіч, чаму бяздзейнічае Вярхоўны Савет пасля таго, як Канстытуцыйны суд прызнаў яго легітымнасць?" — "Нам трэба было б у першую чаргу абмеркаваць даклады прэм'ер-міністра і міністра фінансаў аб бюджэце на 1996 год і выкананні антыкрызіснай праграмы, але яны хоць, па іх словах, і гатовы зрабіць такую справаздачу перад дэпутатамі, але не маюць на гэта дазволу прэзідэнта. Прэзідэнт жа на мае запыты па гэтым пытанні не адказвае". "Ці ўзгадняліся з Вярхоўным Саветам апошнія кадравыя перастаноўкі, зробленыя А.Лукашэнкам — прызначэнне новых намеснікаў прэм'ер-міністра, міністраў?" — "Не, не ўзгадняліся, хоць па Канстытуцыі павінны ўзгадняцца". "Што, калі прэзідэнт прызначыць новую дату выбараў у Вярхоўны Савет, спалучыўшы іх, як гэта ўжо было, з рэферэндумам аб палітычнай інтэграцыі з Расіяй?" — "Дату выбараў назначае Вярхоўны Савет. А праводзіць у адзін дзень выбары і рэферэндум, паказала практыка, немэтазгодна". "Мечаслаў Іванавіч, давайце ўявім сабе, што сёння А.Лукашэнка аб'яўляе ў краіне прэзідэнцкае праўленне. Вашы дзеянні?" — "Я спашлюся на Канстытуцыю, якая такой формы праўлення не прадугледжвае". І да т.п. і да т.п.

Адным словам, у чалавека, які толькі што прыехаў у Беларусь, з адказаў Старшыні Вярхоўнага Савета магло стварыцца поўнае ўражанне таго, што ў краіне пануе, кажучы па-руску, "тишь да гладь, да божья благодать".

Такое ўражанне маглі развеяць хіба што толькі пытанні журналістаў ды раптам прагучаўшыя словы Д.Булахава, які разам з М.Грыбам браў удзел у прэс-канферэнцыі, аб тым, што ў краіне ідзе непрыхаваны ўціск прадугледжаных Канстытуцыяй дэмакратычных інстытутаў, што ён, Булахаў, не выключае надыходу ў Беларусі прэзідэнцкага праўлення. Калі ўлічыць, што Дзмітрый Пятровіч, па сутнасці, каардынаваў выбарчую кампанію А. Лукашэнкі, калі той змагаўся за крэсла прэзідэнта рэспублікі, і, мусіць, лепей, як хто, ведае яго, такі прагноз трэба ўспрымаць вельмі сур'ёзна.

**М.ЗАМСКІ**

---

Пошта

***ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ РЭДАКТАР!***

***Нешта з нашымі беларускімі газетамі стала: не хочуць друкаваць гэта маё бяскрыўднае, хоць трохі вострае, пісьмо. Калі яны думаюць, што ў кіраўнікоў дзяржавы няма пачуцця гумару, дык яны крыўдзяць іх мацней, чым мае крытычныя радкі. Ой, да чаго ж мы дажыліся! Каб яшчэ два гады назад мне, патомнаму прадстаўніку рабочага класа Беларусі, сказалі, што ў нас запануе такая "дэмакратыя", — ні за што не паверыў бы! Шчыра кажучы, без надзей пасылаю і Вам...***

**З павагай Габрусь ГАЛДЫБІК**

*5.10.1995*

# ЧАГО ХТО ВАРТЫ...

## ПІСЬМО ВЕТЭРАНА ПРАЦЫ ГАБРУСЯ ГАЛДЫБІКА КІРАЎНІКАМ БЕЛАРУСІ

Пішу вам я — Габрусь Галдыбік,
Кацельнай службы ветэран.
Той самы "дурань",
што й на дыбе
Адкіне прэч хлусню-абман.

Чаму пішу? І нават злосна?
Таму, што вы — правадыры,
А я — народ, якому млосна
Ужо й на вотчынным двары.

Я ўсё глядзеў у аняменні:
Дакуль жа будзе гэты фарс?
І ўрэшце лопнула цярпенне:
Нашто мне фарс?
Мне трэба фарш!

А фарш я бачу раз у месяц.
Бо — не магу купляць часцей,
Бо мушу браць — хоць плач,
хоць смейся —
Сабачы харч: набор касцей.

Я з той кацельні-душагубкі
Іду дамоў — як мошч! Як цень!
І што? Адной авечай бубкі
Не варт зáробак мой за дзень!

Заходзіць неяк сябар Юзя
І мне хітае галавой:
"Габрусь, і што гэта ў нас будзе?
І чым карміць мне табар свой?

Ты ж, кажа, ездзіў у Канаду
І нават Польшчу пасяціў.
Няхай бы ты мне даў параду,
Крыху цямнечу прасвяціў..."

А што параіць? Што скажу я,
Калі я ў роспачы і сам:
І не ўздымуся да буржуя,
І ў гегемонах дуба дам!

Я не супроць сацыялізму.
Але — якога? Ці ж таго,
Дзе трутень жыў на дармавізну,
А я — ішачыў на яго?

Не! Той парадак я адрынуў.
Мне трутні збрыдзелі. І што ж?
Што на ўзамен? Ваш дзікі рынак?
Дык ад яго мне стала горш!

Во давялі... Дакіравалі!..
А Божа ж мой, які бедлам!
Ну, а за што ж набудавалі
Сабе палацаў — тут і там?

За што? За нашы зберажэнні.
За грошы гэтакіх, як я.
Набілі крадзеным кішэні
І — кормяць байкай салаўя!

О, прайдзісветы-тарбахваты!
Як хітра менцяць языком!
А людзі вераць: вінаваты
Ва ўсім Шушкевіч з Пазняком!

Ды вы апомніцеся, людзі!
Перахрысціце ўласны лоб
І страсяніце тых за грудзі,
Хто нахапаў, накраў, награб!

Хоць час сумбурны, тлумны нейкі,
Чаго хто варты трэба знаць.
Пазняк не хапне ні капейкі —
Хоць будзе з голаду канаць!

Чаму? Таму што ён сапраўдны
Зямлі сваёй інтэлігент.
Такіх і мажа гіцаль спраўны
Брыдотай плётак і легенд.

Ну а вазьміце вы Карпенку:
Усім галовам — галава!
І можа так зрабіць, без енку,
Што не адробіць і Масква!

Да нас і грошы і заказы
Ішлі б са свету з усяго!
Дык дзе!.. Баяцца, як заразы,
Дзяржаўнай кемнасці яго.

Калі ж, скажыце вы народу,
У нас закончыцца хаос?
Я не затым вітаў свабоду,
Каб без пары адкінуць хвост.

Я, дзякуй Богу, маю рукі
І нетрухлявыя глузды.
Дык кіньце вы штукарыць штукі
З усенароднае бяды!..

Другі мой запыт вам — па мове.
Баліць таксама — не стрываць.
Дакуль вы будзеце, панове,
Сваім народам пагарджаць?

Хоць мой рабочы профіль вузкі —
Душой не стану вам крывіць:
Без роднай мовы беларускай
Я не магу сябе ўявіць!

Чаму ж на мове вашых маці
Вы не гаворыце нідзе?
Ці не даволі вам шахмаціць?
Куды гульня вас завядзе?

Ну нейкі ж гонар, хоць на донцы,
Павінны мець вы, мужыкі?
Чаму ж тады ў сваёй старонцы
Вы жывяце, як чужакі?

Бацюту я не адрасую
Свой запыт: гэты "беларус"
Пульнуў аб мове гнюсь такую —
Аж вонь пайшла і быў канфуз.

Не трачу слоў і на Ванюху —
Экзэмпляр рэдкі нават тут,
Дзе не па мове, а па нюху
Наймаюць суддзяў правіць суд.

І для палкоўнікаў таксама
Пытанне гэта — трын-трава.
Іх мова: "Марш!
Кру-гом! І-прама!
І прама — к Сталіну! Аць-два!.."

Я запытаю сёння іншых:
Вас, урадоўцы, перш-найперш,
І тых палітыкаў увішных,
Што пруць на фінішны рубеж.

Паколькі ты зямляк мой родам,
Пачну з цябе, былы Банкір:
Чаму ты, братачка, з народам
На роднай мове — ні гір-гір?

Прабач, што я сваволю трошку,
Але, пакуль не ўспанаваў,
Ты быў між намі свой у дошку
І мову маці шанаваў.

А ты, Сяргей, што скрозь і ўсюды
Нам сыплеш лічбы дзень пры дні?
Ці ж ты з бяздомнае прыблуды?
Ці ж ты не з нашае радні?

А ты, Міхалка, што калісьці
За рогі вобзем клаў быка?
Ці ты з Масквы сюды зваліўся,
Што вечна корчыш русака?

А ты, аграрнік Уладзімер,
Галоўны сейбіт-аратай?
Ці беларускі род твой вымер —
І ты ўжо круглы сірата?

А вы, міністры, падміністры?
Забылі ўжо, як між раўні,
Апаражніўшы з паўканістры,
На мове матчынай раўлі?

Не век сядзець вам на пасадах,
Ды век між нас быць. А таму:
Пакуль не выпалі ў асадак —
Крутніце к кораню свайму!

І ты, брат Слава, сябра Віці,
З кім смачна цмокаўся не раз!
Без мовы хочаш "аднавіцца"
І сесці ў той жа тарантас?

І ты — партыйны лідэр Сёмка!
Ты ж не бязглузды дуралом!
Мне і казаць табе няёмка,
Твой паважаючы дыплом.

Канфедэрацыю з Суседкай
Ты лічыш выгаднай для нас?
Але ж яна ў суполцы гэткай
Нас тут жа возьме пад абцас!

І ўсё! Дзяржава наша рухне —
Як не было!.. Сямён, Сямён!..
А ўсё таму ты так, што глухне
У сэрцы мовы роднай звон.

І ты, Васіль, каторы з Оршы,
Дзе ўсё дыміць імперскі кнот.
Між камуністаў ты не горшы,
Але, даруй, сляпы як крот.

Пакуль, са стаўкай на "вандэю",
Ты будзеш плюндрыць і граміць
Нацыянальную ідэю,
Замест таго, каб бараніць, —

Ты не падымешся ніколі
Да важака працоўных мас,
Бо па сляпой нялюдскай волі
Ты будзеш век чужы між нас.

Панове! З кім жа вы ў народзе?
Хто вам апорай? Хто ваш грунт?
Няшчасны люмпен?
Цёмны злодзей?
Бязродны вырадак-манкурт?

Ці той пісака заскарузлы,
Што слынных волатаў пяра
Загнаў у "антыбеларусы"
І намякнуў "пара, пара!"?

Ці гэны гіцаль з патарочча,
Што ў ВПШ спасціг азы,
Як нашу славу рваць на клочча,
Наш гонар драць на матузы?..

О-ё-ё-ёй, мае вы людцы!
Дык гэта я, стары Габрусь,
Павінен вам крычаць:
"Не плюйце
На прасвятую Беларусь!"?

Прабачце, гэта ўжо занадта.
Што мне крычаць —
я звык даўно,
А вамі — ёсць каму заняцца...
Ну, вось і ўсё. Дадам адно:

Каб я, каго пяро не корміць,
Не даў у грамаце нырца, —
Мне гэты ліст памог аформіць
Паэт ВАВІЛА ВАЙМЯЦЦА.

*1995, жнівень—верасень*

**АД РЭДАКЦЫІ**

Гэтую гумарыстычную паэму колькі дзён назад прынесла рэдакцыйная пошта. Аўтар твора чамусьці схаваўся за псеўданімам. Тым не менш, мы вырашылі аддаць паэму на суд лімаўскіх чытачоў. Бо — твор надзіва злабадзённы і па-сапраўднаму дасціпны. Бо — належыць несумненна пяру паэта-прафесіянала. Бо, урэшце, гэта ў традыцыі нашай літаратуры — з'яўленне і публікацыя падобных ананімных твораў.

# ПАКУЛЬ БОГ СПІЦЬ...

ГАРТАЎ нядаўна газету “Свободные новости плюс”. На адной са старонак вока выхапіла знаёмую назву — Атоліна. Падумалася: ці не тое гэта Атоліна, дзе знаходзілася падсобная гаспадарка Кіраўніцтва справамі ЦК КПБ, адкуль свежыя малако, мяса, іншыя прадукты ішлі на кухню партыйна-дзяржаўнай эліты? Так, сапраўды гаворка ішла пра тое самае “гістарычнае” месца.

Нататка называлася “Маленькія тайны”. Гэта ўжо цікава. Якія тайны могуць быць у Атоліне сёння, калі на двары ўжо іншае “тысячагоддзе” і ад таго ЦК застаўся толькі ўспамін? Ведаючы, што “Свободные новости...” “спецыялізуюцца” на сенсацыях, вырашыў дачытаць матэрыял да канца. Аказалася, што сенсацыя, за якой завітаў сюды карэспандэнт, тычылася самой асобы генеральнага дырэктара гаспадаркі Надзеі Мікалаеўны Гарбузовай, што апынулася ў Атоліне па запрашэнні самога прэзідэнта краіны Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, які ведаў яе па сумеснай працы ў саўгасе “Гарадзец” на Шклоўшчыне, дзе ён быў дырэктарам, а яшчэ і па вучобе ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, — яны там былі нават у адной групе.

Распавяла Надзея Мікалаеўна пра нашага прэзідэнта шмат чаго такога, пра што адразу і не здагадаешся. Да прыкладу, ён быў вельмі здольным студэнтам, якому лёгка даваліся філасофія, палітэканомія, гісторыя КПСС, іншыя гуманітарныя прадметы, што, па думцы Н.Гарбузовай, было зусім натуральным, — Аляксандр Рыгоравіч паступіў у акадэмію, маючы ўжо за плячыма Магілёўскі педінстытут. Вельмі падабаўся ёй А.Лукашэнка і як дырэктар саўгаса — патрабавальнасцю да сябе і падначаленых, сваімі пастаяннымі клопатамі аб людзях. Гэтыя якасці, на думку Надзеі Мікалаеўны, вызначаюць А.Лукашэнку і на высокай пасадзе прэзідэнта Беларусі.

Расказала дырэктарка і пра падрабязнасці свайго пераезду са Шклова ў Мінскі раён — на звычайным грузавіку, прыхапіўшы мужа, чацвёра дзяцей ну і, вядома, хатні скарб...

Лічыць Н.Гарбузова такі круты паварот у сваім жыцці абсалютна натуральным, бо “прэзідэнт павінен абапірацца на тых людзей, каго ён ведае і хто ўмее працаваць...”

Прачытаў гэты замілаваны расказ пра чалавека з прэзідэнцкай каманды (ва ўсякім разе, як можна было зразумець з напісанага, Надзея Мікалаеўна ўсведамляе сябе менавіта ў такой якасці), і адразу падумалася, што ўсе нагаданыя факты і факцікі не даюць адказу мо на самае істотнае пытанне — навошта спатрэбілася прэзідэнту браць пад сваё крыло тое Атоліна, хай цяпер мясцовая гаспадарка і называецца па-іншаму: сельскагаспадарчае прадпрыемства “Усход”, якую пры гэтым мэту перад сабой ставіў, і, нарэшце, калі перавесці пытанне ў чыста практычнае рэчышча, што з гэтага хацеў мець? А тое, што “Усход” знаходзіцца пад пільным наглядам Адміністрацыі прэзідэнта, сведчыла прызнанне Н. Гарбузовай у нагаданым інтэрв'ю, што начальнік Кіраўніцтва справамі прэзідэнта І. Ціцянкоў рэгулярна бывае ў Атоліне і “поўнасцю валодае сітуацыяй”.

Паступова выспела жаданне пабываць там самому, тым больш, што шмат гадоў назад трапіць мне ў Атоліна не ўдалося, хоць пад'ехаў да самай яго мяжы.

У пачатку шасцідзесятых гадоў мне выпала працаваць загадчыкам сельгасаддзела мінскай раённай газеты “Шлях да камунізму”. Само сабою, увесь час калясіў па раёне. Часцяком бываў і ў тагачасным “маяку”, вядомым на ўсю рэспубліку калгасе імя Гастэлы. Помню першае знаёмства з гэтай гаспадаркай. Паехаўшы па брыгадах, я на адной з дарог раптам натрапіў на шлагбаум, каля якога стаяў міліцэйскі пост. Нічога не разумеючы, пайшоў высвятляць, што да чаго. Міліцыянер, паглядзеўшы маё пасведчанне, ветліва растлумачыў, што я выехаў за межы калгаса. “А вы што тут ахоўваеце?” — пацікавіўся я. “А тут для вас няма нічога цікавага”, — пачуў я ў адказ.

Пасля, у калгасе, я ўсё ж папытаў, што за таямнічы аб'ект знаходзіцца ў іх пад бокам. Брыгадзір, з якім я размаўляў, усміхнуўся: “Таямнічы, кажаце, аб'ект... Чаму таямнічы? Гэта падсобная гаспадарка Кіраўніцтва справамі ЦК партыі”. “А пост міліцэйскі навошта? Каб не пакралі, не вынеслі нечага?” — “Ад чужога вока хаваюцца, — хітра прыжмурыўся мой субяседнік. — Там, па-першае, работнікі з ЦК адпачываюць, а, па-другое, з гэтага Атоліна прадукты ідуць адразу ў цэкоўскую сталоўку. — Памаўчаўшы, дадаў: — Не ведаю, мо і маняць, але кажуць, што там каровы распісаны персанальна па начальстве. Ад адной каровы дояць малако, напрыклад, толькі для першага сакратара, ад другой — для другога і г.д.”.



Мы тады, помню, пасмяяліся з гэтых плётак, хоць сёння, калі столькі ўжо вядома з закуліснага асабістага жыцця партыйных князёў, усё гэта выглядае не такой ужо і лухтой.

Цяпер ля ўезда ў Атоліна ніякага шлагбаума з міліцэйскім пастом няма. На аўтобуснай станцыі Паўднёвы Захад сеў я ў рэйсавы аўтобус Мінск—Атоліна, які ідзе кожныя паўгадзіны, і праз якую гадзіну быў на месцы. У аўтобусе з размоў кабет даведаўся, што яны спецыяльна выбраліся ў атолінскі магазін, дзе багаты выбар прадуктаў і дзе ўсё танней. Пацікавіўся і я пасля гэтым магазінам. Сапраўды, ляжалі тут і хлеб, і белыя батоны, якія звычайна ў сельмагі не завозяць, або завозяць зрэдку. Некалькі чалавек стаялі ў чарзе па свежае малако, якое прадаўшчыца налівала проста з бітона. З малочных вырабаў былі ў магазіне і тварог, і глазураваныя сыркі, і смятана. Было і мяса. Як мне падалося, усё па цане ніжэйшай за гарадскую. Пагаварыў з прадаўцамі, касіркай. Яны мне растлумачылі, што магазін узяты ў арэнду сельскагаспадарчым прадпрыемствам “Усход”, якое забяспечвае яго і прадуктамі.

Не праміне потым пры нашай размове пахваліцца мясцовым магазінам і генеральны дырэктар “Усходу” Надзея Гарбузова. “Для людзей мы нічога не шкадуем”, — скажа яна.

А наогул з яе вуснаў я пачую расказ, падобны на дзесяткі расказаў кіраўнікоў гаспадарак, з якімі мяне зводзіў журналісцкі лёс. Асабліва гаспадарак, дзе ёсць што паказаць. А паказчыкі ў Атоліне сапраўды нішто сабе, калі мець на ўвазе цяперашні татальны занепад сельскай гаспадаркі рэспублікі. Ураджайнасць збожжавых дасягнула сёлета 37 цэнтнераў з гектара, бульбы — 210 цэнтнераў. І ў жывёлагадоўлі справы як мае быць, надоі малака па 4 тысячы літраў на карову (цяпер таксама даволі рэдкі паказчык), вытворчасць мяса па сённяшніх мерках мала не рэкордная. Уразілі мяне прасторныя, добра механізаваныя кароўнікі, іншыя памяшканні, цяплічная гаспадарка — 2,5 гектара. Пад шклом і плёнкай, дзе амаль круглы год вырошчваюць памідоры, гуркі, салату, пятрушку і іншую гародніну. Усё гэта было пабудавана ў той час, калі ў Атоліне размяшчалася падсобная гаспадарка ЦК КПБ. Кампартыя на падобныя выдаткі не скупілася.

Я пацікавіўся ў дырэктаркі, каму зараз ідзе іх прадукцыя. Надзея Мікалаеўна, не марудзячы, назвала мне адрасы спажыўцоў — дзяржаўныя мясны і малочны камбінаты, частку малака, мяса і гародніны прадаюць сваім рабочым, частку пастаўляюць мінчанам, прадаюць праз свае магазіны ў Чыжоўцы, Курасоўшчыне і г.д.

— І больш нікому? — цікаўлюся.

— Нікому, — адказвае мая суразмоўніца.

Праверыць, ці так яно на самай справе, а гэта значыць падняць бухгалтарскія дакументы, праваў у мяне, натуральна, не было. Журналіст — не рэвізор, надзелены адпаведнымі паўнамоцтвамі. Так што пра іншае я магу меркаваць толькі па нейкіх ускосных фактах (чуў, скажам, у Атоліне на той жа ферме ад даярак, што і цяпер ці не кожны дзень адвозяцца адсюль малако і смятана ў Мінск у буфет “ЦК” і па прыватных адрасах, але такія размовы могуць аказацца і плёткамі, якія, як кажуць, да справы не прышыеш). А вось што тычыцца фінансавага становішча гаспадаркі, дык тут, па ўсім відаць, не абыходзіцца без “падпіткі” збоку. Толькі на прыбытак ад рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі цяпер не пражывеш, пра што сведчыць практыка большасці гаспадарак рэспублікі, у тым ліку і колішніх “маякоў” па ўраджаях і надоях. З-за фінансавых цяжкасцяў і яны не могуць не тое што набыць новую тэхніку ці мінеральныя ўгнаенні, а і разлічыцца з рабочымі па зарплаце, якая затрымліваецца па некалькі месяцаў.

Ва “Усходзе” ж з усім гэтым, як кажуць, а-кей! Як не без гонару распявала мне дырэктарка, у мінулым месяцы сярэдняя зарплата па гаспадарцы склала 1,2 мільёна рублёў, а ў механізатараў заробак пацягнуў аж да трох мільёнаў. І з усімі разлічыліся да рубля. За апошнія паўгода “Усход” набыў збожжаўборачны камбайн “Дон” (дарэчы, сёння ці не самы дарагі), сіласаўборачны комплекс. Пахвалілася Н.Гарбузова, што перад самым маім прыездам у Атоліна дамовілася яна аб пакупцы ў адной з конегадоўчых гаспадарак 30 коней, ды не абы якіх — беларускіх запрэжных.

— Навошта яны вам? — не стрымаўся я.

— Як навошта? А на мяса, не міргнуўшы вокам, адказала Надзея Мікалаеўна.

— У нас будуць есці каніну?

— А чаму ж не, вельмі смачнае мяса, — чую ў адказ. — А ў далейшым мяркуем стварыць іпадром, школу верхавой язды.

— Вось гэта ўжо бліжэй да ісціны, — заўважаю я. — І чыя гэта ідэя з купляй тых коней?

— Івана Іванавіча Ціцянкова...

А наогул Надзея Мікалаеўна, трэба аддаць ёй належнае, старалася пазбягаць спасылак на высокае начальства. Нават на пытанне, чаму іх гаспадарка так палюбілася прэзідэнту, чаму яго адміністрацыя дэманструе такую зацікаўленасць у яе справах, адказвала адназначна:

— Не ведаю.

Цікава, што такія ж адказы на падобнае пытанне пачуў я і ад начальніка Мінскага раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі Л.Грынкевіча, і ад загадчыка планавага аддзела гэтага ўпраўлення В.Прыходзькі. Мо мне падалося, але, мяркуючы па іх вельмі асцярожных адказах, яны проста не хацелі гаварыць на гэтую тэму, па-ранейшаму называючы Атоліна “спецгаспадаркай”.

Затое вырашыў адразу паставіць усе кропкі над “і” намеснік начальніка Кіраўніцтва справамі прэзідэнта краіны Гергій Міхайлавіч Кашкан, з якім я таксама меў тэлефонную размову. Дарэчы, паводзіў ён сябе крайне не надта ветліва, папярэдзіўшы, што ў маім распараджэнні толькі дзве хвіліны і адразу даўшы зразумець, што яму не падабаюцца мае пытанні. Тым не менш, растлумачыў, што зацікаўленасць Адміністрацыі прэзідэнта справамі сельгаспрадпрыемства “Усход” (ён чамусьці вельмі нервова зрэагаваў, калі я назваў гаспадарку Атоліна. “Ніякага Атоліна цяпер няма, — раздражнёна удакладніў ён, — ёсць юрыдычная асоба “Усход”) тлумачыцца тым, што ў свой час дзяржава “ўбухала” сюды велізарныя сродкі і трэба глядзець, каб іх цяпер не расцягалі. Як можна было зразумець з тлумачэнняў Георгія Міхайлавіча, з той жа мэтай пад кантроль Адміністрацыі прэзідэнта, паводле ўказаў, перададзена больш за дзвесце гаспадарчых аб'ектаў, сярод якіх вядомы комплекс дзяржаўных дач у Драздах пад Мінскам, будынкі і іншая маёмасць Вярхоўнага Савета, нават “Белавежская пушча”, Бярэзінскі і Прыпяцкі дзяржзапаведнікі. “Трэба нам эканоміць сродкі на іх утрыманне, трэба, каб яны прыносілі прыбытак дзяржаве”, — падвёў ён рысу пад нашай размовай.

І яшчэ два тэлефонныя міні-інтэрв'ю на тую ж тэму: з начальнікам упраўлення па абслугоўванні і выкарыстанні дзяржмаёмасці Міністэрства па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі У.Казлоўскім і начальнікам упраўлення запаведнымі справамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы прыроднага асяроддзя А.Галдзянковым.

*(Працяг на стар. 12)*

## ДОМ-МУЗЕЙ РАМЁСТВАЎ



**У Браславе адкрыўся Дом-музей рамёстваў, які размясціўся ў старадаўнім будынку былога млына каля возера Дрывяты. Мясцовыя народныя майстры яшчэ ў 1986 годзе аб'ядналіся ў творчую студыю "Ля возера", якая працавала пры Браслаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Але навучаць рамёствам жадаючых тут проста не было магчымасці.**



**Цяпер майстры набылі сваё памяшканне, дзе, захаваўшы планіроўку млына, размясціліся класы па навучанні традыцыйным на Браслаўшчыне рамёствам: лаза- і саломапляценню, ганчарнай справе, разьбе па дрэве, ткацтве. Тут жа выстаўлены экспанаты з фондаў музея па гэтых відах рамёстваў. Так што наведвальнікі Дома-музея змогуць знаёміцца з гісторыяй промыслаў і назіраць за работай сённяшніх майстроў. У бліжэйшы час адкрыецца экспазіцыя гісторыі земляробства і млынарскай справы. Ёсць у старым млыне і карчма, дзе госці змогуць пакаштаваць традыцыйныя для Браслаўшчыны стравы.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

*На здымках: Браслаўскі Дом-музей рамёстваў, ткачыха Аліна Чапулёнак знаёміць з прыёмамі ткацтва.*

*Фота аўтара*

## УПРЫГОЖЫЦЬ ГОРАД



**Адным з найпрыгажэйшых архітэктурных збудаванняў у Светлагорску стане будынак касцёла, які ўзводзіцца. Разам з касцёлам на беразе Бярэзіны будуецца асабняк, у якім будзе размешчана і навучальная ўстанова.**

*На здымку: на будаўніцтве касцёла ў Светлагорску.*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА*

*БЕЛТА*

Крытыка

***У творах мастацтва, пазначаных талентам, ёсць, калі так можна сказаць, своеасаблівае ўнутранае вымярэнне: сваё святло, якое валодае сілай прыцягнення; свая прастора, дзе герой дзейнічае і выяўляе сябе; свая таямніца, што вабіць, пазнаць запаветнае — задуму аўтара.***

***Вядома, такіх каардынатаў вымярэння можа быць і больш. У залежнасці ад таго, як мы бачым і адчуваем мастацкі твор.***

***Давайце прачытаем разам некаторыя апавяданні Івана Чыгрынава (Збор твораў у трох тамах, т.І.Мінск, "Мастацкая літаратура", 1984). Яны пра духоўнае быццё чалавека, пра яго харство, якое хвалявала і не перастае хваляваць сваёй чысцінёй і загадкай.***

# ЧЫСЦІНЯ І ЗАГАДКА

ЭСЭ

### ТАЯМНІЦА

Куды падаўся Дземідзёнак? Такое пытанне, апярэджваючы падзеі, пісьменнік ставіць у пачатку апавядання "Дзівак з Ганчарнай вуліцы". "Куды ж?" — паўтараю я, бо прыкра разумець, што некуды раптам знік дзіўны пакупнік птушак, які адразу запаў у памяць.

Пісьменнік не дае адказу на гэтае пытанне. Здаецца, ён і не імкнецца яго даць. Ён як бы толькі запрасіў: давайце ж шукаць разам...

У апавяданні аўтар спрабуе заглянуць у самыя запаветныя куточкі чалавечай душы, дзе ёсць неадольная прага дабрыні, дараванай нам самой прыродай. Яе, прыроды, уладная позва да волі — усяму жывому, што нарадзілася і існуе на гэтым свеце, своеасабліва сцвярджаецца ў вобразе Дземідзёнка, які купляе ў людзей... птушак і выпускае іх (як аднойчы падглядзеў аўтар) у чысты блакіт летняга неба.

Дземідзёнак аб'явіўся ў вёсцы тры гады пасля вайны, у цяжкі час. Пасяліўся ў адзінокай старой жанчыны Дакуліхі. Галеча і нішчымніца гнялі людзей. Тут хоць бы кавалак хлеба мець. А ён, бывае, галадае, але на невялічкую пенсію купляе на базары птушак, каб даць ім волю.

Праўда, дзіўна гэта, супярэчыць здароваму сэнсу. Але не для Дземідзёнка. Ён чалавек незвычайны. Прынамсі, па мерках, што ўсталяваліся ў вёсцы. І сваёй знешнасцю, нейкай загадкавай і дзікаватай, і лёсам, някідкім і, як высветлілася потым, трагічным. Можа, гэта апошняе і абвастрыла ў ім разуменне, што ўсё жывое народжана для волі, для шчасця.

А іначай чынам сцвердзіць гэта? Як перарабіць несправядлівасць? Як перайначыць людзей?

Відаць, у адказе на гэтыя пытанні — таямніца, якую нам пісьменнік так і не адкрыў да канца. Ён, здаецца, толькі акрэсліў, дзе яна можа быць, дзе яе шукаць.

Запамінальнымі штрыхамі аўтар дае партрэт Дземідзёнка. Знешнія прыкметы: сівы, вылінялая сацінавая кашуля, штаны з латкамі, руды брыль, — адметныя. Да таго ж, як падкрэсліла маці, ён заўсёды пануры, маўклівы. Магчыма, і ў тым прычына, што выдае недасяжным. Думаецца, гэта з аднаго: не верыць, што людзі могуць да канца яго зразумець. Таму і не раскрывае сваю душу. Нават калі ідзе па вуліцы, то не азіраецца па баках, каб павітацца.

Праўда, аўтару ўсё-такі двойчы ўдавалася наблізіцца да Дземідзёнка. Можа, аднаму з вёскі. Вось ён ідзе следам за старым на Зінкевічаў луг, куды спяшаецца Дземідзёнак з клеткай, у якой, нібы за кратамі, купленыя на базары вераб'і.

Дземідзёнак на тым лузе выпускае вязняў на волю. Угледзімся ў яго аблічча. Перад намі раптам памаладзелы чалавек, адухоўлены прыгожай мэтай. Ён выпраменьвае ўнутранае святло — душа адкрыта дабрыні і трывожыць яе. Ён пачувае сябе самым шчаслівым на свеце.

Гэта — сапраўдны Дземідзёнак, якім ён ёсць на самай справе. Астатняе, што заўважалі ў ім, — гэта суровая пячатка нягод, пакладзеных жыццём.

Малюнак прыроды, на фоне якой птушкі ляцяць на волю, іскрыцца яркімі фарбамі. Прырода ў той момант у поўнай гармоніі з унутраным станам гэтага чалавека.

Другі раз аўтар блізка падвёў нас да Дземідзёнка, калі быццам неспадзеўкі крануў яго жыццё ваеннага часу. Той страціў самае дарагое — унучку Алёнку, якую так нечакана ўпершыню ўбачыў і прытуліў у сябе на Лясных Дачах, у старожцы, калі сюды накацілася вогненным валам вайна. Аднак іх, малую і дзеда, у той старожцы навекі разлучылі фашысты. Потым ад яго пайшла дачка, не зразумеўшы, што Алёнка прапала не па яго віне. Нарэшце, вярэдзіў успамін пра сінічку, якая скалела ад холаду ў старожцы, калі яго ў камендатуры катавалі фашысты. Светлая і безабаронная істота, яна, тая сінічка, нікога не магла пакрыўдзіць. Як і ўнучка Алёнка, што згубілася ў шалёным віры вайны.

У такіх пакутлівых варунках ён пакінуў свае Лясныя Дачы, дзе вайна пакінула прама ў сэрцы крывавы след. Аднак не азлобіўся. Ён пачаў шукаць сабе апірышча. На жаль — не ў людзей, бо тыя, з кім давялося ў апошні час сутыкнуцца — і чужакі-фашысты, і родная дачка — жорстка абышліся з ім. Імення ў гэты цяжкі момант ён усвядоміў, што падняцца над тымі акалічнасцямі, якія нявечаць чалавечую прыроду, можа толькі дабрыня. Яна здольная ачысціць душу і даць збавенне ад пакут і адзіноты. Відавочна, трагедыя, якая здарылася ў старожцы, і разлука з Алёнкай падштурхнулі да незвычайнага занятку — купляць у людзей птушак, каб выпускаць іх на волю, вяртаць ім першародны сэнс жыцця.

Упэўнена, што ўсё было імення так. Пераконваюць мастацкія дэталі, якія ў апавяданні — як павелічальныя шкельцы, дзе, здавалася б, нязначнае набывае сэнс і вагу. Праўда, абмалёўваецца, а дакладней сказаць — намячаецца характар Дземідзёнка скупа. Аўтар тут негаваркі, як і яго герой, які часцей маўчыць і панурыцца. Здаецца, пісьменнік такі асцярожны, каб лішнім словам не разварушыць раны свайго героя. Узнікае своеасаблівая недаказанасць, якая, аднак, не парушае цэласнасці вобраза. Яна завязвае моцны псіхалагічны вузельчык, які мусіць развязваць сам чытач, каб глыбей зразумець у апавяданні праблему жыцця і волі.

Мне даводзілася не раз бываць на птушыных базарах. Заўсёды ўглядаюся ў твары пакупнікоў. Часам здаецца, што вось зараз убачу сівога старога ў палінялай рубашцы, у рудым брылі. Прыцiскаючы да грудзей клетку, дзе ў драцянай загарадзі пакутуюць птушкі-нявольніцы, ён прабіваецца да выхаду. Уяўляю: ён выедзе за горад, на шырокі луг. Тут, зняўшы тварам ад шчасця, выпусціць птушак на волю. Яны выпырхнуць з яго цёплай далоні ў чысты блакіт неба і на ўсе галасы зальюцца звонкай песняй.

Аднак часцей бачу няўсмешлівых людзей, якіх ціснe груз сваіх праблем і клопатаў. Словам, шэрыя будні, якія так хацеў зрабіць светлымі для ўсіх герой Івана Чыгрынава.

### ПРАСТОРА

Суровы час. Недзе далёка грукоча вайна. Рэха яе адгукаецца пісьмамі, што прыходзяць ад франтавікоў-аднавяскоўцаў. А вось Ігнату толькі цяпер трэба ісці ў тое пекла: раней не бралі, бо была хворая нага.

На такой ноце пачынаецца апавяданне "Ішоў чалавек на вайну".

Вось і праводзіны. Сабралася ўся вёска. Ігнат, адарваўшы ад сябе Анюту, шырокім крокам падаецца наперад, туды, дзе страшная невядомасць. Найперш — для яго, а значыць — для жонкі і дзяцей, што застаюцца дома. Там непрадказальнасць, там чалавек як пясчынка на ветры.

Сціскаецца сэрца: што будзе з ім, Ігнатам?

Здаецца, жыццёвая прастора, у якой мы былі з ім, замкнулася. І для яго, і для нас. Наперадзе — нейкая сцяна, за якой іншы свет, адкуль малаверагодна вярнуцца ў родную хату.

Натуральна, сутыкнуўшыся з перашкодай, якая палохае наступствамі, міжволі хілішся назад, да таго моманту, калі мы першы раз убачылі Ігната, каб даўжэй пабыць з ім. Вяртаешся да таго парога, з якога ступілі разам з ім у мастацкую прастору апавядання, калі ён, прыйшоўшы ў хату, даведаўся пра павестку ў ваенкамат.

Вехі той мастацкай прасторы — гэта кампазіцыйныя пункты. Яны служаць апорамі, якія абазначаюць лінію дзеяння Ігната, вызначаюць іх парадак і змест.

Ігнат, калі прачытаў павестку ў хаце, перш спахапіўся: не ўсё зрабіў па гаспадарцы. І граблі не паправіў, і сыну боты не адрамантаваў, і вугал хаты не падважыў... Значыць, лішні клопат ляжа на рукі жонкі. Замітусіўся... Але ў хату ўбягаюць родныя дзеці — малалетнія сын і дачка. Яны радуюцца, што Ігнат ідзе на вайну: іх не будуць дражніць аднагодкі, бацькі якіх ужо ваююць з немцам.

А, тут у дзверы праціскаецца аднарукі старшыня калгаса Пахамок, каб развітацца. На стале, як водзіцца, паяўляецца

Уражанне

# ПРАДЫКТАВАНА СЭРЦАМ

"Ці даводзілася вам сустракаць світанак дзе-небудзь на Сожы ці Ясельдзе?" — задае пытанне ў прадмове да новай кнігі паэзіі Рыгора Сакалоўскага "Радкі любві" (пра папярэдні зборнік яго "Афганскі сшытак" у "ЛіМе" паведамлялася ў нумары за 4 лютага сёлетняга года) народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін і працягвае: "Студзёная раса апякае ногі, асыпаецца іскрамі. Касматы туман плыве ўнізе па цячэнні. Неба празрыстае да самых далёкіх зорак..."

Нешта падобнае адчуваеш, калі чытаеш новыя вершы паэта, асабліва тыя, у якіх моцна адчуваецца повязь аўтара з бацькаўшчынай. Напрыклад, верш "Старонка родная":

**Ты прости за долгую**
**Разлуку,**
**В этом не моя, поверь,**
**Вина...**

**Три березки, у речной**
**Излуки,**
**Узнаю:**
**Родная сторона.**
**Милые поля**
**И перелески,**
**Трав медовых горковат**
**Настой,**
**И пейзаж неброский,**
**Деревенский...**

Р.Сакалоўскі піша аб тым, што

пляшка самагонкі.

Мастацкая прастора, у якой адбываецца дзеянне, робіцца дынамічнай, насычаецца рухам думак, трывог, надзей, клопатаў. У ёй выразна чуваць ціхі голас аднарукага старшыні, калі ён прапаноўвае каня на заўтра, каб падвезці да ваенкамата; у ёй — ласкава-спалоханы голас Анюты, якая добра разумее ўсю трагічнасць свайго становішча; у ёй — пахі летняй ночы, калі яны, муж і жонка, нечакана, але так натуральна спаткаліся, выйшаўшы паасобку з хаты, каб нацешыцца адно адным перад развітаннем...

Мастацкі абсяг апавядання становіцца больш ёмістым, пукатым, шматгалосым. Ён як бы раздаецца ўшыркі і адначасна падаўжаецца — бы тая дарога за вёскай, па якой заўтра Ігнату наканавана пайсці ў ваенкамат.

Ад аднаго кампазіцыйнага пункта да другога, што ўтвараюць мастацкую прастору твора, лепей разумееш Ігната, яго ўнутраны стан. Яна, тая прастора, не толькі фон, на якім фіксуецца кожны крок героя. Яна ўздзейнічае або спрыяе, па-свойму вызначае многае ў паводзінах, у тых дачыненнях, што ўзнікаюць у творы.

Сам Ігнат у той жа меры творыць мастацкую прастору апавядання, у якой яна ўплывае на яго. У ёй ён рэалізуе сябе, у ёй выяўляе свой характар, добры і ласкавы, але і рашучы.

Размяшчэнне кампазіцыйных пунктаў, іх месца ў апавяданні, сувязь між імі — усё гэта лагічна і заканамерна вынікае з задумы, падпарадкавана творчай задачы. Ад першага такога пункта, калі адбываецца знаёмства з Ігнатам, і да апошняга, у якім галоўнае—провады,—жыццё з трывогамі, турботамі і маленькімі радасцямі, вырванымі ў суровых будняў. Мы абжываем, асвойваем той абсяг, вельмі сціслы ў часе, які герой хоча зрабіць лепшым для людзей, што побач. І застаёмся ў ім. Разам з Ігнатам, бо ён зразумелы і блізкі нам, і мы па-чалавечы шкадуем яго.

Самы, бадай, важны кампазіцыйны пункт — праводзіны. Прастора апавядання, замыкаючыся, бы напінаецца, гатовая разбурыцца, бо прадчуваецца развязка, за якой магчымы трагізм. Чуецца немы крык жонкі, які агучвае ўсё наўкола адчаем і роспачу. Здаецца, усяму канец.

Ігнат рашуча ступае на дарогу. Ён, не азіраючыся, пакідае за сабой прастору, дзе засталося тое, што ўжо не адарваць ад сэрца: і шчырыя да наіўнасці пытанні дзяцей, і сцішаны шэпт жонкі ў апошнюю ноч перад развітаннем і яе немы крык...

Я гляджу ўслед Ігнату, які ідзе на вайну. На сэрцы холад і боль. Міжволі, інстынктыўна заплюшчваю вочы, у думках вяртаюся назад, у дзень учарашні, дзе было яшчэ не так трывожна. Там — самае светлае і дарагое для героя, яно саграе і дае надзею. Яму і нам. Нечакана азарае думка: не, Ігната не зачэпіць куля. Не павінна. Ён абавязкова вернецца. У тую прастору, дзе проста і шчыра жыць з людзьмі, дзе любімая жонка, безабаронныя дзеці, дзе просты і клапатлівы аднарукі старшыня... Тая прастора застаецца з ім. З намі. Таму, пэўна, мы ўжо ніколі не расстанемся.

## СВЯТЛО

Тая летняя ноч ля вогнішча, на пахкім сене, побач з цыганскім табарам, так і свеціцца для мяне невытлумачальнай красой. Яе, гэту ноч, магу параўнаць хіба з самым шчаслівым успамінам дзяцінства, дзе засталося многа дзіўнага і неспазнанага, што заўсёды шчымліва падымаецца ў душы ў мінуту скрухі.

Пісьменнік назваў апавяданне "Адна ноч". Але якая! Пасля яе застаюцца надзеі і ціхі смутак, кранута таемным святлом.

Адкуль яно? Дзе крыніца? Чаму нейкае няўлоўнае? Б'юся ў здагадках, каб неяк дайсці розумам: што гэта за цуд? Адгадка, як і часцей за ўсё бывае, простая, і прыходзіць яна неспадзявана, у хвіліны душэўнай раўнавагі: аказваецца, святло тое ў радках апавядання, у яго тканіне з думак і пачуццяў, памкненняў і мараў герояў.

Я слухаю іх, суразмоўцаў ля вогнішча, якія сутыкнуліся тут, бадай, выпадкова,і мне здаецца, што неба сваім шатром ніжэй і ніжэй нахіляецца над задумнай зямлёй. Болей таго, я адчуваю, як зоркі, высокія і дрыготкія, апускаюцца недзе ля табара ў траве, каб пачуць, аб чым то сварацца, то спрачаюцца, то будзённа гамоняць людзі.

Да вогнішча падыходзіць крыху гуллівая Глафіра, амаль яшчэ дзяўчынка, знешне бесклапотная. Але яна паспела ўжо спазнаць нягоды: нечакана памёр па невядомай прычыне муж. Засталася яна ў юным узросце без апоры. Ды не апусціла рукі, не надламалася душою, захавала і чысціню сэрца, і надзею. Глафіра шукае сябе сярод людзей. Яна марыць аб светлым каханні, аб тым, што яшчэ сустрэне сваё сапраўднае шчасце.

Пра свой лёс гамонка ля вогнішча ў старога Мікалы. Усе свае семдзесят гадоў ён у дарозе. Яго думкі афарбаваны мудрасцю чалавека, якому вядомы многія таямніцы жыцця. "Галоўнае, гэта каб быць сярод людзей", — кажа цыган, тым самым настаўляе на шлях свайго маладога суразмоўца, які толькі пачынае самастойнае жыццё.

Перад намі стары цыган — як на споведзі, ад якой вее шчырасцю, і хочацца верыць яго простым і даходлівым словам. Неяк лягчэй пачуваеш сябе, калі слухаеш Мікалу: прыбаўляецца жадання стражэй глянуць на сябе, вастрэй ацаніць, што карыснага зрабіла для сябе і людзей, што сутыкаюцца на жыццёвай дарозе.

І зусім не бесклапотна жывуць цыгане, як, можа, некаму падаецца. У іх свае праблемы, якія, бывае, выліваюцца ў жорсткія канфлікты. Аўтар невыпадкова ўводзіць у тканіну апавядання сон пра Рому. Ён, малады, паспрабаваў адысці ад традыцый табара, што занепакоіла цыганоў, і яны сабраліся па-свойму вырашыць спрэчку. Можна толькі здагадвацца, чым яна закончылася.

У тую ноч ля вогнішча аўтар прачытаў разам са мной цікавыя старонкі жыцця вечных вандроўнікаў — цыган. Міжволі слухачамі сталі і зоркі, дрыготкія і высокія, і коні, што непадалёку скублі траву, і ўсё наваколле, якое не магло спачыць у сне ля зыркага агню.

Але сатлеў цурбыль. На месцы вогнішча застаўся прысак. Вярнуліся на неба, якое стала ясным, і нават паспелі ўжо змяшацца з імі зоркі. Недзе ля рэчкі прачнуўся лёгкі ветрык.

Неўпрыкмет наступіла раніца. У наваколлі зусім светла. Ад сонца, якое прамяніць на ўсходзе. Ад следу на роснай траве, які пакінуў стары Мікала, што першым рушыў у пасёлак, дзе трэба спыняцца на сталую працу. Ад усмешкі Глафіры, якая стаяла ля вербалозу, ад яе вачэй, у глыбіні якіх высвечвала нешта бурштынавае.

Цыганы рана падняліся, каб перабірацца на новае месца, у саўгасны пасёлак. Ростань з імі будзіць трывогу, але і пакідае надзею, што сустрэчы з добрымі людзьмі абавязкова паўтараюцца. Яны будуць зноў і зноў. Незабыўныя, як святло вачэй юнай Глафіры і мудры роздум старога Мікалы ў тую летнюю ноч пад зорным небам.

**Наталля КУЗЬМІЧ,**
**студэнтка БДУ**

---

перажыў і зведаў. Разам з тым у яго вершах прысутнічаюць традыцыйныя матывы, калі лірычны герой паўстае выказнікам думак свайго пакалення. А пакаленне Р.Сакалоўскага, нягледзячы на не такі і вялікі ўзрост, нямала пабачыла на сваім шляху. Сам жа аўтар, як вядома, зведаў, што такое вайна ў Афганістане. Але суровыя выпрабаванні не азлобілі яго, а наадварот, навучылі яшчэ большай спагадзе і мудрай разважлівасці, цеплыні ў дачыненні да іншых людзей. А яшчэ — прыбавілі на скронях ранняй сівізны:

**Любовь и жизнь**
**Неотделимы...**
**Я эту истину**
**Постиг.**
**Когда нечаянно**
**Седины**
**Вплелись — как белые**
**Стихи...**

Лепшыя з твораў Р.Сакалоўскага прадыктаваны сэрцам. Адкрытасць паэта, даверлівасць яго лірычнага героя перадаецца і чытачу, які любіць паэзію і які ўмее па-сапраўднаму цаніць дружбу, сяброўства, каханне. А акурат гэтыя матывы ў кнізе і вызначальныя.

**Р.ТАРАСЕВІЧ**

---

Сустрэчы

# "НЕ ЗГОДЗЕН З ТЫМ, ШТО ВЫМЕРЛІ ПАЭТЫ"

Не так часта, як раней, выбіраецца ў дарогу народны пісьменнік Беларусі І.Шамякін. Усё ж гады далёка не тыя, каб рэгулярна ездзіць на сустрэчы з чытачамі ці прымаць удзел у розных мерапрыемствах, якія праводзяцца не ў сталіцы — як-ніяк, а ў пачатку наступнага года спаўняецца яму 75... Але гэтым разам Іван Пятровіч на паездку згадзіўся ахвотна, не змог адмовіць М.Мятліцкаму ў прапанове наведаць Глыбокае. І не толькі таму, што Мікола — яго маладзейшы сябра. Была на тое і не менш важкая прычына — М.Мятліцкі з'яўляецца выдавецкім рэдактарам кнігі Тамаша Ляшонка "Запознены дар", што нядаўна выйшла ў "Мастацкай літаратуры". А зборнік гэты — незвычайны. Ён і першая кніга аўтара, але ён жа адначасова і выбранае Фамы Васільевіча. Сімптаматычна і тое, што прэзентацыя "Запозненага дару" мелася адбыцца акурат у дзень нараджэння Т.Ляшонка, а спаўнялася яму ...шэсцьдзесят гадоў.

Кажаце ўзрост далёка не "паэтычны"? Доля ісціны ў падобным сцвярджэнні, канечне, ёсць. Аднак у любым правіле абавязкова ёсць і выключэнне. Пад яго і "падпадае" Т.Ляшонак. А што гэта і на самай справе так, лёгка пераканацца, калі пазнаёміцца з яго кнігай. Ды шмат у гэтым дапамагла і юбілейная вечарына, што ладзілася ў гонар паэта ў глыбоцкім Доме культуры.

Але, паэта! Шчыра аддадзенага літаратуры, які, як кажуць, зорак з неба не хапаў ды ішоў сваёй сцяжынай упэўнена, хоць, здавалася б, і мусіла б яна збочваць з літаратурных бальшакоў. Ды пра ўсё па чарзе... Нарадзіўся Т.Ляшонак (сапраўднае прозвішча Лашонак) у вёсцы Загор'е Глыбоцкага раёна. Дарэчы, назва роднай вёскі падказала яму і яшчэ адзін з псеўданімаў — Тамаш Загорскі, якім ён таксама падпісвае свае творы. Найперш тыя, што друкуюцца ў глыбоцкай раённай газеце "Веснік Глыбоччыны". Пасля заканчэння сярэдняй школы служыў у арміі, вучыўся ў тэхнічным вучылішчы, працаваў электраманцёрам у калгасе і адначасова завочна спасцігаў азы навукі і ў Беларускім інстытуце механізацыі сельскай гаспадаркі (цяперашні аграрна-тэхнічны універсітэт). Набыў прафесію інжынера-электрыка і цяпер на працягу дваццаці пяці гадоў узначальвае Глыбоцкае міжраённае аддзяленне прадпрыемства "Энерганагляд", што ўваходзіць у склад вытворчага аб'яднання "Віцебскэнерга".

Паэзія ж спадарожнічае Т.Ляшонку ўсё жыццё. Бадай, і цяжка сказаць дакладна, што найбольш паспрыяла яго жаданню ўзяцца за пяро. Несумненна, сказаліся задаткі таленту, якія рана ці позна, але абавязкова мусяць заявіць аб сабе. А ў астатнім? Магчыма, прыгажосць — дзіўная і непаўторная родных краявідаў на азёрнай Глыбоччыне... А можа, каханне да дзяўчыны з такім рэдкім для вёскі імем Німфа (з жонкай Фама Васільевіч крочыць шчасліва па жыцці ўжо 35 гадоў) стала прычынай таму, што захацелася пісаць вершы...

Хутчэй, аднак, паўплывала і першае, і другое, бо Т.Ляшонку аднолькава ўдаюцца і вершы аб прыродзе, і творы пра каханне. Дарэчы, у кнізе "Запознены дар" яны прадстаўлены разам у раздзеле "Лірыка". А яшчэ ў зборніку ёсць раздзелы "Грамадзянская лірыка" і "Гумар". Не без удзелу рэдактара М.Мятліцкага атрымалася такая ўдалая кампаноўка кнігі.

Ды і прадмова Міколы Федзюковіча "Пладаносны агонь", як нельга, дарэчы. Уласна кажучы, М.Федзюковіч па сутнасці стаў, як пастаянны вядучы літаратурнай пошты на радыё, першым, хто адкрыў для чытача гэтага таленавітага і самабытнага аўтара. Т.Ляшонак друкаваўся таксама ў часопісе "Вожык", газетах "Чырвона змена", "ЛіМ", "Белорусская нива", іншых выданнях. Ну а што да кніжкі, то, як слушна гаворыць М.Федзюковіч, "зборнік лірыкі "Запознены дар" яшчэ раз пацвярджае думку, што паэзія ствараецца не мітуснёй і не легкаважнымі, разлічанымі на мімалётную папулярнасць "адкрыццямі". За ёй заўсёды павінна быць тая чыстая глыбіня духоўнай сутнасці, якая і з'яўляецца адзіным і сапраўдным зместам мастацкай літаратуры. Гэта традыцыя нашага прыгожага пісьменства, гэта яе пладаносны агонь".

А наконт самаго Т.Ляшонка, дык у яго, як і ў кожнага творца, сваё разуменне сутнасці і прызначэння паэзіі. У пэўнай меры яно дае аб сабе знаць і ў вершы "Час і Пегас". Праз роздум аб нашым трывожным, тлумным і такім цяжкім часе: "А ці патрэбны вершы ў тлуме рынку — //Мо ў гандляра аб іх душа баліць?// Ці ў жабрака-нябогі, што скарынку //На два абеды марыць падзяліць?" І праз катэгарычнае непрыманне прыстасавання. Праз веру, што, нягледзячы ні на што, паэзіі ёсць месца на зямлі і абавязкова прыйдзе часіна, калі яна спатрэбіцца і тым, хто сёння абязлолены.

І па-свойму, надзіва непаўторна, хоць няцяжка пры гэтым заўважыць і пэўную знаёмасць матываў (усё ж куды важней ўнутраныя інтанацыі, тое, што прачытваецца між радкамі паяднанасць з Бацькаўшчынай, з Беларуссю прамаўляецца ў радках, якія ўзяты да кнігі эпіграфам:

**А мне ў жыцці, мой кут бацькоўскі, трэба**
**Не пачуццё ўзаемнасці, о не! —**
**Каб той, другі, каму адкрыеш неба,**
**Любіў цябе шчэ болей за мяне.**

Усё хараство паэзіі Т.Ляшонка і адкрылася ў час вечара. Адчуць яе вабнасць, жыццёвую напоўненасць, пранікнёную лірычнасць дапамаглі выступленні І.Шамякіна, М.Мятліцкага, Навума Гальпяровіча, Алеся Жыгунова, сябра юбіляра па літаратурным аб'яднанні "Далягляды" Віталя Гарановіча, а таксама сяброў з літаб'яднання "Світанак", што працуе ў суседняй Шаркаўшчыне...

Гучала нямала прыязных слоў, ды ўсё ж, сумнення ў тым няма, прама-такі цудоўна, калі можа прамаўляць сама паэзія. І яна на вечары таксама загаварыла. І не проста адна, а ў спалучэнні з музыкай. Такая магчымасць атрымалася дзякуючы магілёўскаму кампазітару Міколу Яцкову, які, перш чым даць слова песням, расказаў, што выпадкова прачытаўшы ў газеце "Чырвоная змена" некалькі вершаў Фамы Васільевіча зразумеў — гэта акурат тое, што, як кажуць, само сабой просіцца на музыку.

Песні прагучалі ў выкананні глыбоцкага вакальна-інструментальнага ансамбля "Расстанне" і знакамітага Алена, які спецыяльна завітаў з Наваполацка, каб віпаць Фаму Васільевіча.

Віталі Фаму Васільевіча і калегі па працы — прадстаўнікі абласнога начальства, раённага. Гаварылі ў першую чаргу пра яго прафесійныя поспехі. Што ж, і гэтыя словы заслужаныя, бо працуе Т.Ляшонак самааддана. Тым не менш, на вечары ўсё ж пераважалі ацэнкі, якія тычыліся непасрэдна яго літаратурнай дзейнасці.

Хораша, прачула гаварыла пра паэта і першы намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама Т.Сауліч, а гэта дзякуючы і яе пастаяннай падтрымцы, вялікай улюбёнасці ў літаратуру і ладзяцца падобныя сустрэчы. Так было, дарэчы, і летась, калі прадстаўнікі выдавецтва "Мастацкая літаратура" ладзілі ў Глыбокім "круглы стол", прысвечаны надзённым праблемам прапаганды літаратуры, і сёлета падчас прэм'еры новага фільма І.Дабралюбава, створанага па новых творах І.Шамякіна.

Увогуле, як ні даводзіцца цяжка "Мастацкай літаратуры", а тут парупіліся выдаць кнігу Т.Ляшонака надзіва аператыўна і хутка. Ды і парываць сувязі з глыбачанамі не збіраюцца. У планах выдавецтва выпуск калектыўнага зборніка членаў мясцовага літаб'яднання. А што да Т.Ляшонка, дык (гэтая думка неадназвона гучала і ў час вечара) яму месца ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Хоць часам пры ўважлівым чытанні яго твораў можна знайсці і той гладкапіс, які наўрад ці можна назваць паэтычным адкрыццём. У цэлым "Запознены дар" — дар своечасовы.

Сёння, калі бездухоўнасць запаланяе грамадства, вельмі да месца паэзія пасапраўднаму зямная і непаўторная. Таму нельга не вітаць тых, хто, падобна Т.Ляшонку праз усё жыццё захаваў адданасць матчынай мове, паэзіі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Віншуем!

## Уладзіміру ПАЎЛАВУ — 60

**25 кастрычніка — 60 гадоў нашаму таленавітаму пісьменніку Уладзіміру Паўлаву.**

**Літаратурную працу ён пачаў з паэзіі, выдаў кнігі “Узлётная паласа” (1960), “Далягляд” (1964), “Светацені” (1967), “Начная балада” (1971), “Сонца купаецца” (1976), “Сляза на вейцы” (1982), “Гадавое кальцо” (1986) і іншыя. Плённыя набыткі У. Паўлава і ў галіне прозы — кнігі аповесцяў і апавяданняў “Годы нашы — птушкі” (1970), “Ад агню і мяча” (1973)... Нямала піша і для дзяцей, паспяхова выступае як перакладчык.**

**Творчую працу Уладзімір Андрэевіч спалучаў з журналісцкай дзейнасцю. Быў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва, адказным сакратаром рэдакцыі газеты “Чырвоная змена”, адказным сакратаром кінабюлетэня “На экранах Беларусі”. Важкія яго заслугі і на ніве выдавецкай справы — працаваў загадчыкам рэдакцыі паэзіі, затым Збору твораў і выбраных твораў выдавецтва “Мастацкая літаратура”. У 1971—1972 гадах У. Паўлаў быў літаратурным кансультантам СП БССР, а з 1990 года з’яўляецца намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

**З днём нараджэння, шаноўны Уладзімір Андрэевіч! Няхай Вам і надалей хораша жывецца і плённа працуецца!**



Уладзімір ПАЎЛАЎ

# ЛЯВОН І ЛЯВОНІХА

АПАВЯДАННЕ

1

Пасля было многа пагаласу пра тое, як Лявон вярнуўся з вайны. Лявоніха з жанкамі жала жыта на гары за ветраком. Туды па апоўдні і прыбег суседскі хлопчык з навіною:

— Ваш дзядзька з фронту вярнуўся. У хаце поўна мужчын, і яны паслалі па вас.

У Лявоніхі аж дыханне перахапіла ад радаснай навіны, а сама неспадзеўкі як успудзілася, як стала на дыбы.

— А няхай пачакаюць да вечара мужчыны. Так і скажы. Бач, ім няўцерп чарку наліць. Нікуды не пайду, пакуль не дажнём постаці.

Тут ужо зніякавелі жнеі. Распраміліся, пасталі хто з перавяслам, хто са жменяй зрэзанага жыта ў руках.

— Пабойся Бога, Лявоніха. Мужык з вайны вярнуўся, а ты... — папракнула суседка Марына.

— Я птушкаю ляцела з поля, калі перадалі, што мой Іван без нагі дамоў прыйшоў, — сказала Хвядора, а Васіліса, мужык якой загінуў, загаласіла.

— Вось што, жанкі, — як прыпыняючы гаворкі, цвёрда прамовіла Лявоніха, — давайце дажынаць. А ты, Пецька, бяжы і скажы дзядзьку Лявону і мужчынам — хай засцілаюць стол ды нас чакаюць. Мы ўсе прыйдзем, толькі во загон дажнём. Ды без нас хай не пачынаюць, — нагнулася і хапіла ў руку як найбольш каліў.

Жых-жых-жых! І, глядзі, ужо адарвалася ад астатніх Лявоніха. Жанкі гэта заўважылі і нехта ўжо жартуе:

— Бач, і самой да мужыка няўцерпкі.

— А то ж.

— Ну што вы, жаначкі, — азываецца Марына, — на гэтым свет стаіць. А тут родная душа, мужык з вайны вярнуўся жывы-здаровы. Хіба ж яна жалезная?!

Лявоніха не была жалезная. Навіна, якую прынёс суседскі хлапчук Пецька, як аглушыла яе. З першага імгнення яна нібы і не зразумела, што адбылося, хто вярнуўся — Лявон, яе мужык, ці яшчэ раднейшая крывіначка, сынок Васілёк. Ужо вось жыта зажалі, птушкі на крыло птушанят ставяць, а з самай вясны няма ад яго пісьма. Аніякай вестачкі. Пісаў Лявон, і ў іх перапіска абарвалася месяцы за два да Перамогі.

Першай дайшла Лявоніха да дарогі, перад якой канчалася постаць, і загаласіла:

— Сынок Васілёк, сыночак! Бацька вярнуўся, а ты дзе?!

2

Васілю не было і васемнаццаці, як яго забралі на вайну. Палявы ваенкамат працаваў чамусьці на могілках. Засталіся не спаленымі, дзякаваць Богу, два будынкі сямігодкі, дзе можна было сартаваць па камандах мужчын і хлопцаў, дык не, на могілках. Можа, вайскоўцы апасаліся нямецкіх самалётаў, што яшчэ часцяком праляталі над Замошшам — выявяць зборны пункт і наробяць бяды, а можа, такі ўжо непазбежны знак лёсу ў самой непазбежнасці: вайна і могілкі?

Перад прысутнымі, папрасіўшы слова ў вайсковага начальства, выступіў баптыст, “святы”, як звалі ў вёсцы, Хведар і пачаў тлумачыць, чаму ўчыняюцца войны, чалавек ідзе на чалавека. Калі б не было зброі, не было б вайны. Таму не бярыце ў рукі зброі, як не вазьму і я.

Маладым жа здавалася, што чым хутчэй яны возьмуць вінтоўкі, тым хутчэй разаб’юць немцаў і настане перамога.

Перамога настала. А ад Васілька ні слыху, ні дыху. І год, і другі, і трэці. Усе запыты ў ваенкамат, пісьмы ў архіў, роспыты нічога не далі. Балелі бацькоўскія сэрцы, лавілі кожны неверагодны выпадак, які выкідвала з чалавекам вайна. Як гэта можна прапасці без вестак? Так ні за што, ні пра што, ды каб ніхто не бачыў, не быў сведкам? Чалавек жа — не іголка. А ў салдата ёсць жа і камандзіры. Вунь іх колькі знізу да самага верху. Адкажыце маці і бацьку за сына. А то — прапаў без вестак і канец! Армія на тое і армія, каб у ёй былі парадак і дысцыпліна. Ведаем, што не адны мы такія, але ж і вы ведайце, што ў нас адзіны сын. А хіба і тым не баліць, у каго два ці больш сыноў?! Усім адкажыце або хоць пакажыце магілу.

Не, толькі не гэта!

Расказвалі, многія салдаты без рук, без ног не азываліся, жылі ў прытулках, у шпіталях, багадзельнях, абы не палохаць родных, не быць для іх абузай. Сыночак родны, дзіцятка наша, у нас жа яшчэ здаровыя і рукі і ногі, — падай галасок, ветрам перакажы — птушкамі прыляцім.

Недзе нехта прысылаў пісьмы з Англіі, Амерыкі, ажно з далёкай Аўстраліі. Лявону і Лявонісе гэта было як вестка на надзею, што Васіль іх таксама жывы. Усе ведалі, што большасць гаротнікаў баялася падаваць родным голас, каб не нашкодзіць. Падай, Васька, голас, падай, мілы. Усё сцерпім, у любы лагер пойдзем, калі і будзе ў чым твая правіна. Але ты нам трэба жывы.

Доўгае чаканне прытупляе надзею. Ды яна ўспыхне нанова, калі неспадзявана красане ажно агнём, хоць заплюшчыся.

Пасля вайны ў войску служылі доўга. Набірала абароты “халодная вайны”, ледзьве не набраліся за чубы з Амерыкай, таму армія мелася быць вялікай. Прызваныя ў сорак чацвёртым — сорак пятым гадах, ацалелыя і не камісаваныя па раненнях і кантузіях, цягнулі салдацкую лямку па пяць-сем гадоў. Ім бы даўно займець сем’і, няньчыць дзяцей, а яны ўсё былі ў рэкрутах.

Быў такім і Мікола, сын суседкі Марыны, аднагодак і таварыш Васіля. Дэмабілізаваўся з Германіі, прынёс радасць у дом бацькоў, а Лявону і Лявонісе надзею на спадзяванне. Перад дэмабілізацыяй трапіў ён у часць, дзе сустрэў земляка з суседняй вёскі Дарасіно, а той у канцы вайны служыў з Васілём. Праўда, не ў адным узводзе, не ў адной батарэі, а сустрэцца давялося.

3

— Лявон, схадзіў бы ты ў Дарасіно да таго чалавека, пагаварыў бы яшчэ. Можа, нешта новае пра нашага Васіля ўспомніць.

— Ага, я і сам збіраўся. Ён кожны год штосьці ўспамінае. Чаму б і не? У старасці забываеш, што было ўчора, а што было ў дзяцінстве ці юнацтве, на ўсё жыццё ўразаецца.

“Той чалавек” з Дарасіно прывык да падобных візітаў. Першыя гады прыходзілі да яго з Замошша дзядзька Лявон і цётка Лявоніха. Не з пустымі рукамі, а з чаркай і скваркай. А як жа, “той чалавек” — апошні са сваіх людзей, хто бачыў іх сына. І праз гэта ён стаў ім калі не родным, то амаль сваяком. А чым багацейшая чарка і сквара, думалася, тым паўней чалавек раскажа пра сына, не паскупіцца на дэталі.

І праўда, кожны раз ён згадваў штонебудзь новае. Няхай дробязь, рысачку, а Лявону з Лявоніхай дабаўлялася надзеі.

Васіль быў паўнашчокі, высокі нязломак. І, мабыць, яшчэ рос, і, канешне, набіраўся сілы, бо ўвесь час яму хацелася есці. У запасным палку ў Ворліку, дзе харчавалі гэтак, як і ва ўсіх запасных палках, — абы ногі цягаў ды вінтоўка не паваліла, бацька падкормліваў сына. Чым? Лустай хлеба з драбком цукру, загорнутых у насоўку і засунутай да грудзей пад шынель. Як выпадала сустрэцца ў кароткі перапынак паміж занияткамі, бацька вымаў цёплы гасцінец сыну. “Бяры і не пярэч, а то маме напішу, што не слухаеш тут мяне”.

— Як жа ты адпусціў ад сябе нашага сынка, Лявон? — не раз дакарала мужа Лявоніха, і кожны раз яму не было чым апраўдацца.

— Было гэта раніцай. Зусім рана. Праўда, нас ужо накармілі кашай на кухні і далі падсаладжанага чаю. Ішоў дождж. Шынель намок, цяжкі. Ды і гімнасцёрка на плячах, чую, прамокла. Ад усяго ідзе пара, — расказваў Лявон. — Засунуў я палову пайкі да грудзей, пачаў шукаць пянёк паблізу зямлянкі, у якой мы жылі. Думаў перадыхнуць хвілінку-другую, аж чую, маё прозвішча крычаць. Сэрца як абарвалася, адчуў нядобрае. Пабег насустрач галасам. Васілёк! Сыночак! І ён мокры. Цячэ з пілоткі на бровы, па шчоках. А цяпер я так думаю, што былі ў тых сурогах і Васькавы слёзы. Так і так, гаворыць, вунь нашы ўжо строяцца. Прыехаў “сват” ад мінамётчыкаў, мяне выбраў насіць мінамётную пліту. Так і сказаў: “Плечы сама пад мінамётную пліту”. “Давай пацалуемся і бывай, бацька!”. Першы раз сказаў “бацька”, а то ўсё тата ды тата. Араней і татачка. Абняліся мы, тройчы пацалаваліся. Ён крутануўся і пабег. Тут толькі я ўспомніў, што не аддаў свайму хлопчыку цёплай паўпайкі. Я — за ім. “Стой! — крычу. — Вазьмі!” Што ўзяць, ён ведаў, але не спыніўся. Павярнуўся адно назад, махнуў рукой і пабег даганяць сваіх. Так і не аддаў яму апошняга бацькоўскага хлеба.

Канешне, мне трэба было неадкладна шукаць свайго камандзіра, вышэйшага начальніка, каб не разлучалі бацьку з сынам. На фронце нямала выпадкаў было, падобных гэтаму. Нават заахвочвалася. У баі бацька сына, а сын бацьку або брат брата не падвядзе. Не зрабіў я такога, і няма мне даравання да смерці...

Дарасінец і ў першыя гады і пасля расказваў, як яны служылі ў суседніх падраздзяленнях. Ён сувязістам, а Васіль, узваліўшы, цягаў у паходзе і з пазіцыі на пазіцыю мінамётную пліту. Недзе ўжо за Одэрам полк іх трапіў у складанае становішча. Ён вырваўся наперад і з трох бакоў быў акружаны. Некаторыя думаюць, што перад канцом вайны мы толькі і рабілі, што пераможна наступалі. На вайне ж — як на вайне. Расказвалі, што ў Берліне немцы ўзялі ў палон двух нашых салдат і тут жа расстралялі. Дык гэта пра двух, што ведаем. А пра колькіх не ведаем?

Полк, у якім служылі Васіль з дарасінцам, вымушаны быў адступаць. Дзе ўподбег, а дзе і бегма. Сын, аднак, мінамётнай пліты не кінуў. Нумар з трубой недзе прапаў, а ён бег праз забалочаную пойму разам з усімі пад прыкрыццё нашай суседняй часці. Пліта выратавала Васіля на той момант. На злёце балванка фауста саданула ў пліну, і сын упаў. Спачатку падумаў, расказваў ён земляку ў медпункце, што адарвала левую руку. Аж не. Кантузіла плячо, і ад яго да кончыкаў пальцаў пабеглі колкія мурашкі, рука трымцела. Звівала ў жгут косці і жылы...

На гэтым месцы Лявоніха звычайна перапыняла мужа:

— Не расказвай так, Лявонка. Баліць.

Быў паранены і дарасінец. Асколкам рассекла скуру на галаве і твар залівала крывёю. Ён сустрэў Васіля за сцяной нейкай ушчэнт разбуранай будыніны. З зацішнага боку сцяны клалі параненых.

Колькі год дарасінец аднолькава паўтараў расказ, дадаючы, што Васіль ляжаў сярод іншых і не знаходзіў сабе месца. Яшчэ праз пэўны час сказаў, што Васіль сядзеў. Значыць, не такі благі ўжо ён і быў. Мог, калі што, ратавацца. Потым згадваў, што Васіль папрасіў у яго закурыць і ён скруціў яму самакрутку. “Гэта майго сынка боль даймаў, — здагадвалася Лявоніха. — Дома ж ён не курыў і з фронту не пісаў, што пачаў курыць”.

Неўзабаве да сцяны, за якой хаваліся параненыя, падагналі машыну і забралі ўсіх забінтаваных. Васіль з іншымі застаўся. Потым быццам бы сцяну абваліў нямецкі “тыгр”.

... — Схадзіў бы ты, Лявон, у Дарасіно да таго чалавека. Можа, што новае ўспомніць. Заўтра ж сынку нашаму, як і Ісусу Хрысту, даруй, Прасвятая Багародзіца, споўніцца трыццаць тры гадочкі. Мелі б мы ўнучка, як Марына Кольку ад Міколы свайго. І мы назвалі б маленькага па імені бацькі свайго. Хай у іх Мікола Мікалаевіч, а ў нас быў бы Васіль Васільевіч... Паклікала я Міколку ў двор, даю яму яечка. А ён нязвыкла пазірае. Гавару, бяры, хопіць цукеркамі зубкі псаваць. Ды пытаю: а ці ж скора, Колька, у школу пойдзеш? Ён адказвае: “Ужо, бабо, і ранец купілі”. Во як хутка адны старацца, а другія растуць — дзеці і ўнукі ў людзей. А наш жа ўсё малады, — уздыхае Лявоніха. — І ці паверыш, Лявон, чым азадачыла мяне хлапчанё? Ні з таго, ні з сяго пытае: “Бабо, а як родзяцца бандыты?” Я і рот разявіла. Учора прыязджала кінаперасоўка, было ў школе кіно. Мабыць, пра бандытаў. Нагледзеўся. Кажу, унучак, бандытамі не нараджаюцца, імі становяцца. Дзеткі ўсе аднолькавыя. А вось хто не слухае старэйшых, хлусіць, бярэ без дазволу чужое, з таго пасля і выходзіць бандыт. Як думаеш, Лявон, наш бы Васілёк Васільевіч спытаў пра такое, га?

— А чаму ж не, хіба наш быў бы горшы за іншых?

4

Вяселле ў Марынінай хаце. Жэняць Кольку, таго, што пытаў перад першым класам пра бандытаў. Колька цяпер — Мікалай Мікалаевіч. А дзе ж ты, Васіль Васільевіч, чаму не нарадзіўся?

Хата ў Марыны новая, цаглянная, перабітая канню на некалькі пакояў. У большым, зале, маладыя, сваты, моладзь. У меншым пакоі — астатнія госці. Хтоніхто і на кухні. Найболей з тых, хто дапамагае Марыне глядзець за сталамі. А што ёй памагаць? Яна, равесніца Лявоніхі, больш камандуе.

На свой час у Лявона з Лявоніхай хата была ці не самая вялікая ў Замошшы. Не толькі на асяродку сяла, дзе яны жывуць, а і ва ўсёй вёсцы. Дзед Лявона служыў у пана леснікам. Сам пан прыязджаў з Пагоста на паляванне. На лёгкім вазку, з некім са слуг. А дзед вельмі добра вабіў ваўкоў, за што, як і за добрую службу, пан даў яму лесу на новую хату. Ды такога, што сёння, можа, толькі ў Белавежскай пушчы і застаўся. Абчасаныя бярвеніны да

(Працяг на стар. 9)

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ШТОДНЯ — НОВЫ ГОРАД

**Такое, ці амаль такое жыццё пачалося ў музыкантаў Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, харыстаў-шырмаўцаў ды групы мінскіх салістаў. 8 кастрычніка яны выправіліся на гастролі па Іспаніі, якія прадоўжацца да 6 лістапада і пройдуць праз 18 гарадоў. На "маршрутнай карце" нашых артыстаў і сапраўды ці не штодня — новы горад. Падчас турнэ давядзецца, напрыклад, пяць разоў вяртацца з канцэртамі ў Мадрыд! Дарэчы, канцэрты пройдуць пад кіраўніцтвам дырыжораў Пятра Вандзілоўскага ды Міхала Казінца, якія ўключылі ў гастрольны рэпертуар Дзевятую сімфонію Людвіга ван Бетховена і сцэнічную кантату Карла Орфа "Карміна Бурана". Гэта ўмовы кантракту, які заключыла з беларускімі музыкантамі фірма "Адзмарт", вядомая сваімі стасункамі з опернай групай нашага ДАВТа — яна ўжо неаднойчы атрымлівала гастролі ў Іспаніі.**

**С. Б.**

## ВЯРНУЛАСЯ ДА ВЫТОКАЎ



**Ёй часта сняцца сібірскія прасторы і прыгажосць далёкаўсходняга краю. Там прайшла значная частка жыцця Любові Васільеўны Самохінай — таленавітай мастачкі з горада Бяроза, там засталіся магілы яе бацькі і мужа...**

**Лёс жорстка абышоўся з іх сям'ёй. Пасля вайны быў рэпрэсіраваны і высланы ў Сібір бацька, за ім паехала і маці. Здаецца, дзецям суджана стаць назаўсёды сібіракамі, тым больш, што і яны завялі там свае сем'і. Але ўсе гады жыцця ў Сібіры маці выхоўвала ў дзецях цёплыя пачуцці да роднай беларускай зямлі. Ад яе ўпершыню пачула Люба аб прыгажосці краю, якога ніколі не бачыла.**



**Маляваць яна пачала з дзяцінства. Спачатку гэта былі малюнкі герояў прачытаных кніг. З узростам тэмы рабіліся ўсё больш пэўнымі, сур'ёзнымі, з філасофскім роздумам. Напрыклад, тэму адной з карцін — "Хутар удавы" — ёй падказаў верш, апублікаваны ў часопісе і прысвечаны жанчынам-удовам вёскі Бармуты, што на Брэстчыне.**

**Пяты год, як Любоў Васільеўна ўслед за мамай пераехала жыць у Бярозу. І ўсе гэтыя гады рыхтавалася да творчай сустрэчы са сваімі землякамі. Яе першая ў Бярозе і трынаццатая па ліку выстава адкрылася ў мясцовым музеі. Водгукі на экспазіцыю — самыя цёплыя. А галоўнае — людзі разумеюць аўтара, суперажываюць з ёй.**

*На здымках: мастачка з Бярозы Любоў Васільеўна Самохіна; роспіс па дрэве "Адпачынак".*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

***Пра Беларускі ліцэй мастацтваў дасведчаны лімаўскі чытач сёетое, безумоўна, ведае. Тое, скажам, што існуе, дакладней — працуе ліцэй не адзін дзесятак гадоў, што рухаючай сілай яго жыццядзейнасці і галоўным крытэрыем якасці ягонай работы з'яўляецца талент. Самыя дасведчаныя з нашых чытачоў, тыя, што стараюцца не прапускаць творчыя справаздачы, якія ладзяцца ў ліцэі штогод, нават падкрэсляць, што тут таленавітыя ўсе — і навучэнцы, і іхнія настаўнікі. І абавязкова дададуць, што са сцен ліцэя паспела выйсці нямала нашых вядомых мастакоў і музыкантаў, што менавіта ў ліцэі — пачатак, вытокі і карані іх прафесійнага майстэрства і творчага ўзлёту.***

***Пра сённяшні дзень гэтай адметнай, унікальнай мастацкай вучэльні, пра клопаты і праблемы, якімі жывуць і з якімі сутыкаюцца педагогі і ліцэісты, наш карэспандэнт гутарыць з дырэктарам ліцэя Анатолем ФІЛІПОВІЧАМ.***

# ТУТ ТАЛЕНТУ ЛУНАЕ ДУХ...

**— Анатоль Андрэевіч, як кажуць, для зачэпкі — пра назву. Ліцэямі ў дарэвалюцыйнай Расіі называліся прывілеяваныя сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы для дзяцей дваранскай, па-нашаму — шляхецкай знаці. Потым гэтая назва знікла, выйшла з ужытку. І раптам — уваскрэсла, як і гімназіі, каледжы, прыватныя школы. Вось і ў вас — не што-небудзь, а ліцэй. Гэта што — мода, павеў часу? Ці ўсё ж маюцца на ўвазе найперш якасныя змены ў падрыхтоўцы будучых спецыялістаў?**

— Безумоўна, *апошняе!* За модай мы не ганяліся. Наша навучальная ўстанова была створана трыццаць тры гады назад, у 1962 годзе. Назву яна займела тады доўгую і надта ж ужо празаічную — Рэспубліканская школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве. У паўнейшым варыянце дадавалася і яшчэ адно слова — спецыялізаваная школа-інтэрнат. З 1990 года мы сталі называцца і працаваць, і выразней — Беларускім ліцэем мастацтваў. Згадзіцеся, што гэтая назва і больш важкая, з большым сэнсавым напаўненнем. Само сабою, мы не ведалі тады, што ўслед за намі з'явіцца цэлы шэраг розных ліцэяў. Мы ж прыйшлі да свайго новага назову не проста так. Мы шукалі новыя формы навучання і выхавання, перагледзелі ўсе свае навучальныя планы. У нас з'явіліся такія прадметы, як сусветная мастацкая культура, гісторыя рэлігіі. І ці не самае галоўнае — беларуская мова навучання. Мы ці не самыя першыя ажыццявілі пераход на яе. Цалкам! І сёння ў нас ужо ад першага да дзесятага класа — беларускамоўныя, пройдзе яшчэ два гады і ва ўсім ліцэі запануе наша родная мова.

**— Майскі рэферэндум на працэс беларусізацыі ліцэя не паўплывае? Кажу пра гэта, бо друк паведамляе пра шматлікія выпадкі згортвання адраджэнскіх праграм.**

— У нас павароту назад не будзе. Мы рыхтуем нацыянальныя кадры, мы акумулюем у сябе нацыянальныя таленты, і вучыць іх, выхоўваць па-за роднай мовай — нонсенс. Мы ўсе, і педагогі, і вучні, усведамляем, што мова — душа народа, а душа павінна быць на месцы, яна не можа быць непрыкаянай. І таму вывучэнню роднай мовы і літаратуры мы аддаём паглыбленую ўвагу. Сярод настаўнікаў, выкладчыкаў беларускай мовы ёсць у нас самыя сапраўдныя энтузіясты-самаахвярнікі. Назаву хоць бы Паліну Рыгораўну Наскову. Чалавек яна ў самым высокім значэнні гэтага слова творчы, няўрымслівы ў пошуках і здзяйсненнях, дзеля карысці справы сама займаецца распрацоўкай дапаможнікаў і падручнікаў. Урэшце, з прыемнасцю нагадаю вам такі факт: усе нашы выпускнікі ўжо не першы год пры паступленні ў ВНУ заўсёды здаюць экзамены на беларускай мове.

**— Ведаючы сітуацыю ў Беларусі з беларускай мовай, хачу вось пра што спытаць. У вас жа таксама не ўсе педагогі валодалі беларускай мовай. Многім, пэўна, даводзілася вучыцца і перавучвацца?**

— Вядома, даводзілася, мы ж не на выспе жывём. Дзеля гэтага ў нас і сёння працуюць спецыяльныя курсы. Праводзіць заняткі і чытаць лекцыі запрашаем самых лепшых спецыялістаў, у тым ліку і з Акадэміі навук. Усе мы, па сутнасці, прайшлі праз гэтую школу. Той, хто адчуваў, што за адзін год не набыў неабходных ведаў і навыкаў, заставаўся, так бы мовіць, на другі год.

**— Анатоль Андрэевіч, вы добрай думкі пра ліцэйскі педагагічны калектыў. А які ён згуртаваўся? Якія крытэрыі адбору ці падбору выкладчыкаў і выхавальнікаў?**

— У нас конкурсны падбор кадраў. Першая ўмова — вышэйшая спецыяльная адукацыя, адпаведная нашым спецыялізацыям і накірункам. Другая — веданне беларускай мовы. Трэцяя — педагагічны і выхаваўчы вопыт. Калі карацей, дык — шукаем і запрашаем добрых спецыялістаў, людзей высокай прафесійнай і агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі. Напрыклад, у пачатковыя класы запрасілі на працу Надзею Аляксееўну Сторажаву, заслужаную настаўніцу Беларусі, вельмі таленавітага педагога. Бываць на яе ўроках — адна асалода, на іх адпачываеш душой. Яна аўтар шматлікіх педагагічных прац, метадычных распрацовак і — вершаў. Але, Надзея Аляксееўна піша і вершы, і неблагія, скажу вам, вершы. Яе часта запрашаюць чытаць лекцыі ў іншыя школы і ліцэі краіны і нават за мяжу...

Вось так пакрысе і згуртаваўся калектыў аднадумцаў, з якім цікава і прыемна працаваць.

**— А колькасна — ці вялікі ваш педагагічны калектыў?**

— Не здзіўляйцеся, але — немалы. Справа ў тым, што пад дахам ліцэя сабраны, ці лепш сказаць — паяднаны тры школы: спецыяльная музычная, сярэднеспецыяльная мастацкая і агульнаадукацыйная. Вось чаму і наша педагагічная сям'я — ажно 145 чалавек. Тым не менш працуем мы дружна, зладжана. Кожны з нас разумее, што вучань — ці то першага, ці то дванаццатага класа — гэта асоба, якую трэба паважаць, якая мае такія ж правы, як і мы, настаўнікі. Адносіны паміж вучнямі і настаўнікамі ў нас самыя сяброўскія, таварыскія. Мы даўно пераканаліся: чым бліжэйшыя гэтыя ўзаемаадносіны, тым лепшыя вынікі і агульнаадукацыйнай, і прафесійнай падрыхтоўкі. Мы кажам дзецям: "Гэта ваш дом, вы тут гаспадары, і паводзьце сябе адпаведна, як дома". І навучэнцы, здаецца, адказваюць даверам на давер.

Але я ці не выпусціў з-пад увагі самае галоўнае. Сярод нашых педагогаў — шмат людзей не проста творчых, а і прафесійных творцаў, вядомых дзеячаў культуры і мастацтва нашай рэспублікі. Вось, скажам, нашы выкладчыкі выяўленчага мастацтва Рыгор Сітніца, Валерый Свістуноў, Міхаіл Макаранка, Валянціна Свентахоўская, Уладзімір Крываблоцкі — усё гэта члены Саюза мастакоў Беларусі, ужо вядомыя не толькі ў нашай краіне майстры.

**— Анатоль Андрэевіч, ну а ліцэістаў колькі? Як вы іх шукаеце-адбіраеце, чаму вучыце?**

— Я ўжо, здаецца, казаў, што ў нас два аддзяленні: музычнае і мастацкае. Вучацца ў нас дзеці з усяе Беларусі — усяго 451 вучань. Яны ў нас вучацца і жывуць, дадому ездзяць толькі ў часе канікул. На музычным аддзяленні займаецца 280 навучэнцаў па спецыяльнасцях фартэпіяна, скрыпка, віяланчэль, духавыя і ўдарныя інструменты, харавое дырыжыраванне, ну і, вядома ж, цымбалы. Цымбальная група — ці не самая большая. Займаюцца нашы дзеці і харэаграфіяй, яна абавязкова для ўсіх вучняў — з 1-га па 12-ы класы.

**— І для дзяцей з мастацкага аддзялення?**

— А як жа! Хоць там больш хлопчыкаў, чым дзяўчынак, але і яны, і большыя, і меншыя, ахвотна займаюцца харэаграфіяй. Між іншым, гэта не толькі прыгожая пастава і паходка, але і здароўе, уменне трымаць сябе *ў любых абставінах.*

На мастацкім аддзяленні ў нас недзе 170 чалавек і працуем там у такіх напрамках, як жывапіс, скульптура, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. На гэта аддзяленне прымаем дзяцей пасля пачатковай школы, і ў нас яны вучацца 8 гадоў, з 5-га па 12-ты класы. А на музычным — усе 12, пачынаючы з першага класа.

**— Як вы знаходзіце таленавітых дзяцей, Анатоль Андрэевіч?**

— А менавіта знаходзім! З дапамогаю нашых вядомых музыкантаў і мастакоў, супрацоўнікаў раённых і гарадскіх аддзелаў



*Былая выпускніца ліцэя Вольга Іжык выкладае харавое дырыжыраванне.*



*На занятках хору.*

## І СПАТКАННЕ, І ЗНАЁМСТВА

**У жыхароў Мінска і гасцей сталіцы з'явілася яшчэ адна магчымасць пазнаёміцца з Нямеччынай. Краінай блізкай і ў нечым — малавядомай нам. Выстаўка фотамастака Юрыя Іванова, адкрытая ў Нацыянальным мастацкім музеі, так і называецца — "Спатканне з Нямеччынай".**

**Падчас адкрыцця выстаўкі пасол ФРГ зазначыў, што тыя, хто быў у Нямеччыне, будуць узгадваць яе, гледзячы на здымкі сп. Іванова, а хто не быў — знаёміцца. І мне захацелася задаць пытанне пра ўспрыманне фотавыстаўкі чалавеку, які бачыў нямецкія гарады і людзей сам. С. Шушкевіч расказаў:**

**— Я не адзін раз бываў у Нямеччыне. Але многія пазіцыі — погляд зусім свежы. І тады — я знаёмлюся. У мяне вялікая зайздрасць, бо я ўсё жыццё займаўся фатаграфіяй. На выстаўцы — мастак вельмі высокага ўзроўню. Менавіта — мастак. І гэта прыемна бачыць, гэта добрая такая зайздрасць: як ён бачыць свет, як ён знаходзіць гэтыя моманты. Ю. Іваноў цудоўны чалавек і такі сціплы, прыстойны... Я пераканаўся падчас адкрыцця выстаўкі яшчэ раз. І ў тым, што ў яго тое бачанне Нямеччыны, якога многім з нас не хапае.**

**"Спатканне з Нямеччынай" — гэта дзесяткі разнапланавых фотаздымкаў: пра сённяшняе жыццё немцаў, гістарычныя помнікі ў гарадах, сучасныя плыні маладзёжнай моды, укладу жыцця, вяскоўцы і гараджане, простыя людзі й дзеячы культуры... Натуральна паўстала пытанне: за які час, за колькі паездак фатаграфавалася ўсё?**

**Юрый Іваноў адказаў:**

**— Здымкі рабіліся на працягу васьмі гадоў. Першы раз я быў у Германіі ў 1987 годзе. Я нават не памятаю, колькі разоў я там быў, — і заўсёды з фотаапаратам. Так і ўзнік гэты зборны рэтраспектыўны партрэт краіны. На выстаўцы прадстаўленыя здымкі, зробленыя ў асноўным у рэпартажным плане, акрамя аднаго, калі я папрасіў немца, каб ён сеў на выстаўцы, прысвечанай другой сусветнай вайне, і зрабіў выгляд, што спіць... Так мне захацелася... Усё ж астатняе — голы рэпартаж, тое, што я бачыў на нямецкіх вуліцах, у іх дамах.**

**Такі кароткі расказ пра выстаўку-сустрэчу з адносна недалёкай ад нас краінай. Дзе, як сказаў Ю. Іваноў, такія ж людзі, як і мы, з падобнымі праблемамі. А тым, хто не пабыў на выстаўцы, раім прыглядвацца да перыядычных выданняў, дзе часам з'яўляюцца фотаздымкі гэтага фотамайстра. І не толькі пра ФРГ.**

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ**

## КАЛЯНДАР КАСТРЫЧНІКА

**14 кастрычніка споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння Усевалада КРАЎЧАНКІ (1915—1961). Першае апавяданне надрукаваў у 1933 годзе ў часопісе "Чырвоная Беларусь". Выдаў зборнікі аповесцяў, апавяданняў "На крутым павароце" (1937), "Калгасныя навелы" (1940), "Зямля гудзе" (1945), "Станаўленне" (1947), "Крыгаход" (1957) і іншыя. Шмат пісаў для дзяцей — "Таямніца аднае вышкі" (1935), "Дзве сяброўкі" (1948), "Падарунак" (1950), "Тэорыя імавернасці" (1958), "Злачынства ля зялёнай тоні" (1961)... Выдаў зборнік аднаактовых п'ес "Апошняя варажба" (1960). Акрамя таго, У.Краўчанка перакладаў з рускай і украінскай моў творы В.Катаева, А.Ганчара (разам з І.Мележам), кнігу "Служу Радзіме" І.Кажадуба і іншыя.**

**20 кастрычніка — 75 гадоў з дня нараджэння Сямёна ДОРСКАГА (1920—1992). Літаратурную дзейнасцю пачаў з вершаў. З 1957 года займаўся перакладчыцкай дзейнасцю з англійскай, нямецкай, французскай, іспанскай моў. Пераклаў раман П.Абрахамса "Вянок для Удома" (1959), аповесці Л.Рэна "Негр Нобі" (1962), П.Джойса "Ціку" (1977), кнігу казак Г.Прокапа "Пятае кола" (1980) і іншыя. У перыядычным друку былі апублікаваны творы Э.Лёста "Аперацыя "Бумеранг", Г.дэ Бройна "Рэната", В.Ланге "Дванаццаць вінаватых", таксама пераўвасобленых С.Дорскім па-беларуску.**

**21 кастрычніка — 70 гадоў з дня нараджэння Льва САЛАЎЯ (1925—1988). У друку выступаў з 1950 года. Пісаў літаратурна-крытычныя артыкулы і рэцэнзіі. Але найбольш займаўся перакладамі, пераўвасобіўшы па-беларуску дзесяткі кніг прадстаўнікоў самых розных літаратур. У тым ліку: "Алеся" А.Купрына (1970), "Белыя ночы" Ф.Дастаеўскага (1971), аповесці і апавяданні Л.Талстога (1977)... Дзякуючы Л.Салаўю ў перакладзе на рускую мову выйшлі аднатомнікі выбраных твораў А.Марціновіча "Накцюрн" (1969), В.Каваля "Выбранае" (1975), М.Гарэцкага "Чырвоныя ружы" (1976), М.Ваданосава "Надзеі і здзяйсненні" (1979) і іншыя кнігі.**

# ШТРЫХІ ДЛЯ СЮЖЭТАЎ

Мікола ГРОДНЕЎ

***Прапаную патаемнае не з запісной кніжкі, а з таго, што запомнілася, што доўгі час жывіла маё жыццё, што ў рэшце рэшт адстаялася на душы, карацей — выдаю штрыхі для сюжэтаў рознага жанру. Але пры адзінай умове: калі хто выкарыстае нешта нейкае з майго, каб паказаў у сваім творы, чаму ў нас усё неяк цераз пень калоду, чаму не так, як у людзей.***

***Вось, здаецца, і ўвесь уступ да маіх штрыхоў. А што тут дадаць? Хай скажуць самі штрыхі.***

**АЎТАР.**

## ПРА САД, ШТО ЗБІТЫ НА ГОРКІ ЯБЛЫК

Да саду ў мяне, прызнацца, не ахці якое *захапленне. Хоць сад, калі ён у белай вясновай* квецені, інакш не назавеш як жывой паэзіяй. А ўвосень!.. калі дрэвы крэкчуць пад цяжарам пладоў — гэта з жоўтай віннакіслай антонаўкай, чырванабокім апортам, з васковым шафранам, ядранай сакавітай пуцінкай, буйной мядовай цітаўкай... ды ўсіх гатункаў жывой паэзіі і не бяруся пералічваць. Хоць гэтыя шчодрыя дары не з замрскіх, некалі славутых вавілонскіх садоў Семіраміды, а — з саду майго бацькі. І ўсё ж мушу паўтарыць, што па-ранейшаму асаблівага захаплення ад таго саду як не было, так і няма. Можа, таму, што даўся ён мне ў памяць. А пакуль мне, дык той сад сядзеў ужо ў бацькавых пячонках. Я не маю на ўвазе, дарэчы, той бацькаў пот, калі ён пад кожны саджанец будучай яблыні выкопваў агромністую яміну. І тут жа, часцей на сабе, чым на кані, адвозіў са свайго агарода на грэблю жоўты пясок і глеістую гліну. На месца ж, у тую яміну, дастаўляў і тлустыя скібы вільготнага чарназёму, і культурны пласт зямлі. Калі б, скажам, недзе пад пяць-дзесяць яблынь, а то пад усе пяцьдзесят шэсць! Рабіў жа такое з пэўнай прыкідкай — хацеў на сваіх дваццаці пяці сотках хоць трохі разжыцца. Можа, не так *— як суседні калгас ад былога панскага саду.* Праўда, у газетах не пісалі і па радыё не трубілі, якім макарам выбіўся з галечы той калгас — не хацелі афішаваць адзінае слова "панскі". Хоць ва ўсім раёне ведалі, што гібеў бы той калгас, калі б не панскі сад. А так, бывала, кожную восень калгас зафрахтуе двa-тры вагоны паражняку, загрузіць скрынкамі з антонаўкай ды на Поўнач. Адтуль — мех грошай. Было на першым часе за што і на тэхніку разжыцца, пасля — на племянную скаціну. А тым часам у вёсках не спалі ў шапку энергічныя, ініцыятыўныя дзядзькі. Можа, не кожны замахнуўся быў на пяцьдзесят шэсць дрэў, ды ўсё ж недзе з дзесятак-два яблынь расціў за хлевам. І вырасціў нарэшце. А пасля кожнага дамарошчанага садоўніка залучыла адна і тая ж бяда: не было куды збываць яблыкі. Мясцовы рынак быў завалены садавінай. Нарыхтоўшчыкі настолькі збівалі цану, што ім мала хто здаваў тыя яблыкі. Вінзавод, *здавалася б, хоць і прымаў, але заўсёды быў* перагружаны. Каму шчасціла здаць, то, як правіла, па пратэкцыі. Завезці на Поўнач, апроч калгаса, ніхто не рызыкаваў. Заставалася адзінае: пакаваць у скрынкі плады ўласнае паэзіі і на шашы перaймаць "дальнабойшчыкаў" — транзітныя грузавікі, якія паражняком ішлі на Маскву ці Ленінград. Бацька таксама нырнуў быў са сваімі першымі антонаўкамі ажно ў Яраслаўль. Калі вярнуўся дадому, не дужа казырыўся. Пасля таго, як падагуліў плюсы і мінусы, пахваліўся: "Тут пагнілі б мае наліўныя, а там пайшлі за маліну. Дармо, што заплаціў столькі за дарогу, але ж два разы па столькі і выручкі займеў".

А з цягам часу ні нарыхтоўшчыкі, ні мясцовыя ўлады не тое што прымаць па дзяшоўцы, нават слухаць не хацелі пра тыя яблыкі.

І вось нарэшце, калі позняй восенню зацярушылі белыя мухі, а на дрэвах у садзе вісела тая ж жоўтая віннакіслая антонаўка, чырванабокі апорт ды буйная мядовая цітаўка, бацька навастрыў пілу, натачыў сякеру... Але не замахнуўся ні на адну яблыню. Пакінуў той сад мне ў спадчыну, пакінуў, вядома, з надзеяй: можа, у рэшце рэшт улады адумаюцца, не век жа багаццю праладаць? "Адумаюцца", — спадзяваўся і я, спадзяваўся, пакуль і сам не напароўся на бяду.

Было гэта... менавіта ў які год, не памятаю дакладна. Адзінае помніцца, што яблыкі тады ўдаліся буйныя і як мытыя. Адгружаць на вінзавод — шкада было аддаваць за бясцэнак. "Вунь, у Карме, — падказвалі мне, — сходна плацяць". Трэба толькі па ўсіх правілах спакаваць". О, як загарэўся я тады. Наздымаў адборных, купіў стандартныя скрынкі, нават стружку раздабыў.

Пагодным днём адвёз на грузавіку лепшыя свае плады зямлі і сонца на прыёмны пункт, што на беразе Сожа. Амаль да самага вечара чакаў свае чаргі. Нарэшце мой тавар стала аглядаць маладжавая, распаўнелая цётка. Тыцнула пальцам на першую скрынку і загадала: "Адбі дашчэчку". Потым адбіў па "дашчэчцы" і яшчэ з дзвюх скрынак. Калі тая цётка заўважыла на адным яблыку маленькую драпінку, махнула рукой: "Некандыцыя, — і тут жа паставіла ўмову. — Па дзесяць капеек за кіло. Хочаш — згружай, а не — дык з богам".

Нейкі момант я тады стаяў, як абліты варам. "Не, чым па дзесяць капеек, лепш выгружу ў *Сож. Хай плывуць мае наліўныя да Кіева".*

Гэта я падумаў толькі. А калі б зрабіў, ці апраўдаўся б да пенсіі.

Праз два гады — з такой перыядычнасцю пладаносіў бацькаў сад — новая аказія для мне. Хоць, здавалася, прадбачлівую нявыкрутку загадзя абклаў — заручыўся падтрымкай аж другога сакратара райкома партыі. Той пры мне пазваніў дырэктару кансервавага завода. І вось я на прахадной таго завода са сваімі яблыкамі. А вахцёр рашуча не пускае на тэрыторыю. Іду да дырэктара. Дырэктар нават слухаць не хоча. Каб хутчэй адправіць мяне за дзверы, катэгарычна заяўляе: "Ды не адзін сакратар мяне не прымусіць прымаць чарвіўкі, каб яны гнілі". А што рабіць? Куды падзець поўны кузаў яблык? Набіраю нумар другога сакратара райкома — ажно ён у адпачынку. Няўжо прыйдзецца на гэты раз выгружаць маю антонаўку ўжо ў Дняпро? Ды тут мяне асяніла думка: пазваню я ў той райком і першаму? Таму першаму бяды такой да маіх яблык, але ўсё ж набіраюся мужнасці. Першы выслухаў мяне ўважліва, а пасля таго, як я папярэдзіў: "Не дапаможаце — падганю грузавік да параднага пад'езда райкома і выгружу", *папрасіў, каб перадаў трубку дырэктару завода.* Дырэктар пасля таго, як паслухаў сакратара, сказаў у трубку два словы: "Будзе зроблена" і перад маімі яблыкамі адчыніліся заводскія вароты.

Толькі зусім нядаўна я даведаўся, чаму тады наша вышэйшая начальства пляваць хацела на беларускі сад. Іншая справа — малдаўскі! От тое начальства нацэльвала, як тады модна было гаварыць, "працаўнікоў сяла" на генеральную лінію: мы малдаванам — сваё мяса, масла, а малдаване нам — свае яблыкі, кампоты, сокі... Іхняя садавіна — не абы-якія чарвіўкі з нейкіх там сотак, а з цэлае індустрыі! Ды і мы ж тое мяса ім са сваіх комплексаў. Трэба ж трымаць раўненне на грандыёзнасць! Ну, а хто спрабуе забаўляцца сваім садком — забаўляйся. Пакуль нарэшце не пераканаешся, што гэта ўсё роўна, як мурашу тузацца з супертэхнікай.

Але ж нашы беларускія комплексы ды і малдаўская цуда-індустрыя пакуль не спрацавалі. А вось мураш, хоць і зацюканы і збіты на горкі яблык, патроху валачэ.

Тым, хто сёння бярэ і смакуе, скажам, дамарошчаны яблык, не лішне будзе ўспомніць добрым словам тых энергічных і ініцыятыўных дзядзькоў, якія сваім потам і мазалём упрыгожылі і ўзбагацілі зямлю жывой паэзіяй.

## ВЕНІКАВАТАЯ ЗАКАРУЧКА

Калі б, скажам, мне давялося пачуць, што некалі ў суседняй імперыі адзін з гараднічых, маючы сваё хобі, нават на службе вязаў венікі, а пасля той "венікаваты" трапіў ажно ў губернатары і, будучы ўжо губернатарам, *таксама штукаваў на сваёй службе і бярозавыя* і дубовыя, каб тыя штукаванні спатрэбіліся і для паркі ў лазні і падлогу падмятаць, я разважыў бы так: ат, якія былі верхаводы, такая была і гора-імперыя. Але тут бы я сябе злавіў на слове: перш чым пасміхацца з суседзяў, ці не лепш пашукаць нешта падобнае на сваёй бацькаўшчыне? І не ў эпоху нейкай там смуты, не ў даўнія часы Рагнеды ці Гусоўскага, а ў нашы дні — у хвалёным сельсавеце ці райсавеце. Праўда, мушу адразу агаварыцца: сумысля я не вышукваў дамарошчаных верхаводаў з нейкімі там мухамі ці прыхамацямі — гарачы факт нібыта знарок натрапіўся. О, калі б на сельсавецкім ці раённым узроўні, а то — куды вышэй.

Неяк на пачатку дня прыехаў я па камандзіроўцы ў адзін з абласных гарадоў нашай рэспублікі. У гасцініцу не спяшаўся. На заводзе па службовых справах мяне чакалі пасля абеду. Як было не пазваніць майму аднавяскоўцу, яшчэ і колішняму дружбаку Генадзю Паўлавічу. Хоць павіншаваць з новай пасадай — зусім нядаўна яго прызначылі дырэктарам навукова-даследчага інстытута.

З тэлефона-аўтамата я набраў нумар і толькі сказаў у трубку "Добрай раніцы", ён адразу пазнаў мяне па голасе і запрасіў да сябе. А каб я не стаў адмаўляцца, абумовіў як не вершам: "Бо хто ведае, што дзень будзённы нам адзычыць".

І вось я адчыняю дзверы ягонага кабінета. Толькі заікнуўся, каб ад перапоўненых пачуццяў чамусьці выпаліць першае, што падвярнулася на язык: "Когда легковерен и молод я был", як на маё здзіўленне ўбачыў Генадзя Паўлавіча ў плашчы, з нейкім невялікім скруткам белай паперы пад пахай, яшчэ нечага ўсхваляванага, нават сярдзітага. "Ой", — першае, што пачуў ад яго. Па ўсім відаць было, што пакуль я дабіраўся да ягонай службы, дзень будзённы і сапраўды справіўся адзычыць яму нешта неспадзяванае.

Генадзь Паўлавіч не інакш, каб растлумачыць, а то і апраўдацца: столькі ж не бачыліся і на табе, госць на парог, а ён за парог — на стале разгарнуў ватманскі ліст. На ім было начэрчана нешта далёка немудрагелістае. Пачаў ён гаварыць з нудлівай боллю і злосцю. Адзінае я ўлавіў, што нешта нейкае калі не здарылася, то напльіло.

— І пяты раз... Падумаць толькі: пяты раз, — ён як не мацюкнуўся. — Пяты раз да самога... з гэтакай во закаручкай. Ды гэта ж толькі качаргою запісаць на сцяне.

Не справіўся я ўнікнуць у тую закаручку, як ён згарнуў свой ватман. Мне сказаў:

— А ты чакай. Я — паляцеў. Загадаў жа, каб зараз.

І я мусіў чакаць. Прысеў да яго рабочага стала — на ім якраз *ляжалі свежыя газеты, але* засяродзіць увагу хоць на якім артыкуле ніяк не мог. У кабінет да дырэктара то заходзілі яго саслужыўцы, то званілі па тэлефоне. І кожны пытаўся пра дырэктара. "Паехаў да самога", — адказваў я. "Да каго канкрэтна?" — дамагаліся. "Да самога", — паўтараў, што ведаў.

Нарэшце і ў мяне час заставаўся на зыходзе. А прачакаў я недзе каля трох гадзін. Праўда, я не здзіўляўся, чаму гэтак бавіцца Генадзь Паўлавіч. Калі самога дырэктара навукова-даследчага інстытута выклікаў Сам, ды пяты раз, ды яшчэ тэрмінова, то, мабыць, у чым чарцяжы затоена калі не сенсацыя веку, то нешта экстраардынарнае, што, можа, пойдзе "з сонцам на нажы!" І мусіў пакінуць запіску: маўляў, чакаў — не дачакаўся.

Толькі я ўзяў лісток паперы, каб напісаць яе, як адчыняюцца дзверы і з тым жа скруткам, як пабіты, вяртаецца Генадзь Паўлавіч. Ён спачатку здзекліва шпурнуў свой ватман, потым, калі распрануўся і прысеў да стала, горка зазначыў:

— Каб яму жывот пад каленам забалеў. Душу ж ён з мяне выняў. І як не ў казіны рог загнаў. *А за што б, ты думаў?* Ды гэта ж закаручка зломанага граша не варта. — Генадзь Паўлавіч падняў свой ватман, разгарнуў перада мной. — Бачыш, чарцёж дзвярной ручкі. Звычайнай ручкі на ўваходныя дзверы. — Ён назваў службовы будынак, які ўзводзіся тады для вышэйшай абласной знаці. — Не хачу сказаць, што першы варыянт чарцяжа быў горшы. Але ж і пяты не лепшы. Сам займаўся гэтай ручкай-закаручкай. Звычайнай дзвярной ручкай! Колькі часу змарнаваў і свайго і майго! А паспрабуй, скажам, трапіць да Самога на прыём. Ого-го... — і Генадзь Паўлавіч цяжка-цяжка ўздыхнуў. — Дык вось я цяпер чым займаюся. А ты думаў — мая фірма венікаў не вяжа.

Калі я вяртаўся ад Генадзя Паўлавіча, з галавы чамусьці не выходзіў той "венікаваты" гараднічы. А яшчэ думаў пра тое, што з цягам часу, калі хто з будучых даследчыкаў задумае расказаць, чаму ў нас было ўсё неяк цераз *пень калоду, бадай, таксама прыйдзе да той* жа простай высновы: ат, якія былі "венікаватыя" верхаводы, такія былі і завядзёнкі і парадкі. Таму ці варта пасміхацца з суседзяў, калі свае верхаводы адурэлі, як кацяняты...

Пошта

# У ЗОНЕ АДЧУЖЭННЯ

Адна за адной праходзяць гадавіны Чарнобыля, але размовы, ці дакладней, спрэчкі вакол "мірнага атама" не спыняюцца. Гэтаму спрыяе і энергетычны крызіс, які сілкуе намеры стварэння на Беларусі ўласнае АЭС, і экалагічныя праблемы, якіх менш не становіцца. Вось і першы прэзідэнт Беларусі прысвяціў некалькі дзён чарнобыльскім праблемам. Ён абяцаў "перасяленцам наадварот", што ім не толькі дазволяць жыць у родных вёсках, але створаць усе ўмовы для нармальнага і заможнага жыцця ў зоне. Гутарка адбылася ў вёсцы Савічы, якую мне давялося пабачыць, калі я працаваў у Чарнобыльскай зоне. І разам набеглі ўспаміны...

Вясна 1993-га... Мы з сябрам крочым па асфальце гасцінца сярод квітнеючых акацый, абрыкосаў, яблынь. Дарога не блізкая: ад ускраіны Хойнікаў да Бабчына — 12 кіламетраў, а ад чыгуначнай станцыі — усе 15. Але я шчаслівы, бо збылася мара папрацаваць на Беларусі і дзеля Беларусі. А шыбуем мы пехатою з клункамі таму, што звычайны транспарт у зону, зразумела, не ходзіць, а патрапіць на службовы досыць складана — ён жа не мае раскладу. У Бабчыне, у зоне адчужэння, размяшчаецца выносны навукова-даследчы цэнтр. Калісьці ў Бабчыне быў беларускі педагагічны тэхнікум, у якім навучаўся Яўген Калубовіч, тут радзіма паэта Міколы Мятліцкага. За даўнімі часамі тут быў буйны асяродак вырабу жалеза з балотных руд.

Зрэшты, пачуцці мае ўсё ж супярэчлівыя: з аднаго боку — цудоўныя беларускія краявіды, непаўторны водар, небасхіл непараўнальнай красы, а з другога — сталае адчуванне небяспекі ад пакінутых дамоў і селішчаў усцяж дарогі, ад магільнага спакою, гэтай страчанай для жыцця зямлі.

Гэтая супярэчнасць будзе прысутнічаць заўжды і паўсюль падчас маёй працы ў зоне. Першае спецыфічнае ўражанне новага чалавека — медкамісія. Новы шпіталь з палiклінікай зусім сталічнага выгляду: чатырохпавярховыя будынкі, кафля, ліфт, чысціня. І зусім побач пасвіцца жывёла. Унутры нечакана вялікія для гэтай мясцовасці чэргі — недахоп урачоў. За тым часам не было дэрматолага (і гэта там, дзе скура ўспрымае ўсю погань), а, напрыклад, неўрапатолаг, псіхіятр і нарколаг меўся ў адной асобе ды яшчэ ў адзінай для шпіталя і для насельніцтва паліклініцы. Кроў на аналіз пасылалі за паўста кіламетраў у Рэчыцу і г.д. У звязку з гэтым цікава ведаць, як будзе наладжана медыцынскае абслугоўванне тых, хто вярнуўся ў зону?

Наступнае відовішча: даволі добрыя дарогі і адсутнасць руху на іх. Дарогі патрэбны для паездак рознага кшталту груп, на выпадак пажару ці якой навалы, таму іх папраўляюць.

Але гэтыя супярэчнасці зразумелыя. Незразумела іншае: напрыклад, людзі жывуць у забруджанай мясцовасці і нічагуткі не ведаюць пра радыяцыю. Лічбы радыеактыўнасці не хаваюць, але ж яны, як кажуць, у адно вуха ўлятаюць, праз другое вылятаюць, бо жыхарам невядомы іх сэнс. Колькі разоў даводзілася чуць нават ад супрацоўнікаў Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка (ПДРЭЗ), так быць мовіць, ад калег: "А якая ў нас радыяцыя? А ці многа гэта?"

Таму не дзіўна, што ў запаведніку гойсае процьма людзей. Збіраюць садавіну ў пакінутых садах (дарэчы, куды яна потым трапляе?), выносяць рэчы ды будаўнічыя матэрыялы з пакінутых сядзіб, ловяць рыбу (дарэчы, утрыманне стронцыю ў касцях карася ў Прыпяці пераўзыходзіць дапушчальны ўзровень у 50-500 разоў), палююць. Аднойчы ў нядзелю, калі я заставаўся адзін у навуковым цэнтры ў Бабчыне, высветлілася, што ў мяне няма амаль нічога з ежы, і я пайшоў за 4-5 кіламетраў у Губарэвічы, дзе са 100-120 былых дворышчаў у 12 яшчэ жылі людзі, і ім прывозілі тое-сёе з харчоў. Каб не "мазоліць вочы", пайшоў не галоўным гасцінцам, які перакрывае міліцэйскі пост, а прасёлкам, што прыблізна з паўкіламетра дубліруе гасцінец. Пакуль я йшоў, мне сустрэліся дзве легкавушкі, матацыкл і адзін пешы. Міліцыя ж кантралюе толькі галоўныя шляхі (не так, як было ў першыя гады пасля аварыі, калі зону ахоўвалі, як дзяржаўную мяжу) і ўпарта не заўважае, што адбываецца за яе спіной. Другім разам, уначы мяне абудзілі блізкія стрэлы. Ранкам пайшоў да міліцэйскага паста, спытаўся, ці не яны стралялі. Сказалі "не", бо ім і зброю не даюць, каб не адабралі. "Ну, а стрэлы чулі?" — "Не" Сапраўды, іншы раз лепей мець кепскі слых...

Тут трэба спыніцца і сказаць, што такое ПДРЭЗ. Запаведнік быў створаны пастановай урада РБ у зоне адчужэння. Плошча яго паступова пашыраецца адпаведна адсяленню чарговых вёсак (апроч зоны прымусовага адсялення існуе зона добраахвотнага). Вымярэнні, зробленыя ў 1991 годзе Беларускім лесаўпарадкавальным прадпрыемствам, паказалі, што са 131309 гектараў тагачаснай плошчы запаведніка амаль 60 працэнтаў мелі забруджанасць звыш 40 кюры, у тым ліку 1115 гектараў — звыш 1000. Каб перакласці гэтыя лічбы на больш звыклыя, трэба памножыць іх на 10, і тады атрымаецца сіла выпраменьвання ў мікрарэнтгенах у гадзіну (безумоўна, гэта прыблізна). Сам я дзесяцітысячны ўзровень не напаткаў, але 7100 вымяраў. Калі прыгадаць, што максімальна дапушчальная доза для насельніцтва складае 0,5 бэра на год (бэр — біялагічны эквівалент рэнтгена, можна дзеля прастаты лічыць іх роўным), то, няцяжка падлічыць, што ў гэтым месцы мяжа бяспекі будзе дасягнута за трое сутак. Дарэчы, гэта мяжа не азначае, што людзі абавязкова захварэюць; гэта мяжа, за якой прыкметна ўзрастае колькасць захворванняў на пэўную колькасць жыхароў.

Лічбы сілы выпраменьвання вельмі ўмоўна вызначаюць небяспеку, бо забруджанасць плямістая, нават іншы раз пунктавая. На асфальце адно, 10-20 метраў убок ад гэтага месца ў траве — другое. Адно на ганку, другое — у хаце, трэцяе — у хляве. На вышэйшых паверхах будынкаў меней, чым на глебе. У зоне адчужэння можна сустрэць даволі чыстыя пляцоўкі, а па-за яе межамі ёсць вельмі брудныя асяродкі. Таму звычайны выраз "Чарнобальская зона" недакладны, ён узнік за тым часам, калі меркавалі (ці пераконвалі?), што забруджанасць абмежаваная пэўным колам вакол АЭС. Можна сказаць, што большасць абшару Беларусі ёсць чарнобыльская зона, а тое, што набліжана да АЭС, ёсць запаведнік.

Што датычыць шкоды для здароўя, дык пакуль і навука няздольная даць дасканалыя звесткі пра ўплыў малых доз. Верагодна адно: мажлівасць захворвання рэзка павышаецца. Усе, хто перажыў тут самыя першыя месяцы пасля аварыі, у рознай ступені хворыя. Бадай, больш за ўсё распаўсюджана хвароба шчытападобнай залозы, асабліва чамусьці ў маладых жанчын. На Палессі, якое заўжды пакутавала ад недахопу ёду, арганізм прагна паглынаў радыеактыўны ёд, а ён, як вядома, ледзь не самы чынны канцэраген.

І ўсё ж галоўная небяспека зыходзіць ад так званых "гарачых часцін" — найдрабнейшых часцінак з пажарнага дыму і пылу. Арганізм не здольны вывесці іх, і яны назапашваюцца, пакрысе гадуючы рак. Найвышэйшыя расліны маюць нейкага кшталту абарону ад радыенуклідаў: усе рэчывы праходзяць праз малекулярныя мембраны, і калі ў генным кодзе не пазначаны стронцый, дык ён і не пройдзе фільтр, а калі пазначаны (скажам, калій), дык той пройдзе. Таму чым далей ад каранёў, тым чысцей клеткі. Мы вымяралі, напрыклад, бульбу, якую вырошчвалі на доследным полі ў запаведніку — радыяцыя ў норме. Але тая бульба была пачышчаная ды памытая. Гэта значыць, без глебы на шалупінні. Увогуле забруджанасць вымяраюць так: рэчыва ўкладаюць ці ўліваюць у мерную ёмістасць, якая змяшчаецца ўнутры свінцовай абалонкі, каб не ўплываў вонкавы фон. У пераліку на кілаграм або літр вызначаецца ўзровень выпраменьвання. Прытым у рэчыве можа быць мала "гарачых часцін", і ўзровень выпраменьвання ад іх будзе таксама малы. Але ж яны трапяць у арганізм з усімі выцякаючымі паследствамі. Гэтага не бачаць альбо не жадаюць бачыць тыя, хто плануе выкарыстоўваць зямлю запаведніка пад ворыва. Вядома, шкада добрай зямлі ў добрым клімаце (даўней, да ўзбуйнення гаспадарак, 14 калгасаў Хойніцкага раёна вырошчвалі вінаград). Тут добра ўладкаваная меліярацыя (Паганянскі і Каложынскі каналы былі зроблены ў 1920-я гады), якая ў адрозненне ад Заходняга Палесся ствaралася павольна і досыць разважліва. Але...

Гэтую акалічнасць не ведаюць ці не "бяруць да галавы" тыя, хто, не маючы машын, ад'язджае з зоны ў Мінск ці Гомель. На самой мяжы запаведніка косяць сена нейкія гаспадаркі з Калінкавіч і Вялікага Бору, нібыта гэтая ўмоўная мяжа аддзяляе чыстае ад нячыстага. Карацей кажучы, ніякіх слядоў спецыяльнай асветы не назіраецца.

Другая супярэчнасць — вялікі лямант у вярхах наконт чарнобыльскай бяды і разам з тым — поўная абыякавасць да існуючага стану запаведніка. Калі ў 1992 годзе пачаліся ад сушы вялікія пажары, дык не было чым змагацца з імі. Ніхто не ведае, якія менавіта шкодныя рэчывы і як далёка разносяць пажары, бо няма адпаведнага абсталявання дый сродкаў на доследы. З другога боку, у 1993 годзе Дзяржкамчарнобыль апантана ўзяўся за стварэнне міжнароднай лабараторыі, плануючы многія дзесяткі мільёнаў на гэтую мэту, хаця было відавочна — як па ўласным, так і па ўкраінскім вопыце, — што іншаземцы сюды не надта ахвочыя ездзіць. Хіба самім ездзіць да іх: лабараторыю планавалася падначаліць непасрэдна Дзяржкамчарнобылю, а не запаведніку.

Усё, чым карыстаюцца супрацоўнікі запаведніка, апроч адмысловых прыбораў, узята з зоны: пачынаючы ад сшыткаў з пакінутых школ і да мэблі і падушак. Няма грошай. Няма паліва, каб правільна аб'язджаць зону з кантролем, і замест таго, каб прывезці з Хойнікаў мясцовых супрацоўнікаў на працу, дырэктар штотыдзень выязджае паляваць на дзікоў (дырэктар запаведніка — былы загадчык базы райспажыўсаюза). За ўвесь час маёй працы я толькі аднойчы бачыў супрацоўнікаў Дзяржкамчарнобыля — пабылі меней сутак, узялі мяса дзікоў дый дахаты. Калі мой калега, таксама прыбыўшы вясною 1993 года, пажадаў даведацца, што зроблена яго папярэднікамі, дык высветлілася, што ў запаведніку справаздач няма, іх адсылаюць у Дзяржкамчарнобыль, але і там не было іх, бо іх перадалі ў Гідраметэакамітэт, у якім знайшоўся нейкі цікаўны чалавек. А спадар Кенік тым часам ладзіў мітынгі ў абарону рускай мовы.

Сталых жыхароў у зоне практычна няма. Там-сям з краю бліжэй да цывілізацыі, людзі жывуць. Напрыклад, у згаданай вёсцы Савічы Брагінскага раёна. Завялі коней, аруць пашу. У вёсцы Варацец жыў адзін чалавек з маці. Калі ажыццяўлялі высяленне, ён працаваў кухарам пры вайсковым штабе, дый так і застаўся. Калі што трэба — на веласіпед і да бліжэйшай населенай вёскі ці раёна. Але ў глыбіні зоны нямала бомжаў. Жывуць, напрыклад, адзін чалавек, які называў сябе Лукой, з Цвяры. Жыў доўга, яго і міліцыя вывозіла, і запрашалі ў вартавыя навуковага цэнтра. А ён нібы прыкіпеў да Пагоннага. Потым нейкая газета надрукавала пра яго нататку, а праз колькі дзён знайшлі яго забітым. Відаць, не дарэмна хаваўся. Або такі выпадак. Паехалі нашы супрацоўнікі на Прыпяць па справах ды сустрэлі там хлапца 16 гадоў; пасварыўся з бацькамі ў Мазыры, прыдбаў недзе лодку і паплыў па рацэ. Куды — сам не ведаў. Потым агаладаў, скалеў, убачыў на беразе хаты і пайшоў да іх. Але гэта ўжо была зона. Тры дні паліў вогнішчы (справа была ў лістападзе), начаваў на дрэвах, каб не дасталі ваўкі (а гэтага дабра ў запаведніку звыш меры). Невядома, які быў бы ягоны лёс, каб яго не напаткалі нашы.

Аднойчы ўвечары, увосень (было ўжо цёмна), заставаўся я ў пасёлку адзін. Засядзеўся ля прыбораў: нешта набіраў на камп'ютэры, тварам у кут. Раптам за спіной пачуўся нейкі шоргат, а коцік, які замінаў мне працаваць, саскочыў з клавіятуры і пабег. Азірнуўся — у дзвярах стаіць жаночая постаць. Хустка насунутая так, што твару не разгледзець, у руках брудны клуначак, на нагах замест абутку нейкія караўкі. "Дазвольце пераначаваць, я спазнілася на машыну". — "Нельга, — кажу, — тут службовае памяшканне. А куды вам трэба?" — "У Калінкавічы". Ехаць з тых мясцін да Калінкавіч ўсё адно, што з Заслаўя ў Барысаў. Адправіў я яе па шашы да міліцэйскага паста. А хто гэта быў, чалавек ці прывід, усё роўна не даведацца. Нейкая ірацыянальнасць. Зрэшты, усё тут ірацыянальнае. У святле таго мо і сапраўды руская мова ёсць галоўны паратунак ад чарнобыльскай навалы?

Газетная нататка не ёсць навуковая справаздача, таму тое-сёе я свядома спрацціў, што, магчыма, выкліча дакоры навукоўцаў. І ў ёй немагчыма распавесці пра ўсё. Але ўсё ж я мушу сказаць колькі слоў пра тых, хто працуе ў запаведніку. Гэта добрасумленныя, добразычлівыя, мужныя людзі. Супрацоўніцтва з імі пераканала мяне, што ў кожнай справе ўсё залежыць перадусім ад людзей. Справа не ў наяўнасці АЭС на Беларусі, справа нават не ў забруджанасці, справа ў тым, якія мы ёсць — ад прэзідэнта да фуражыра на ферме.

Ужо два гады, як я вярнуўся ў Маскву. Не давялося прытуліцца на Радзіме. Прапіскі не давалі. Мой калега напісаў заяву, каб далі хаця б часовую прапіску. Напісаў на роднай беларускай мове і пайшоў да старшыні райвыканкама. Той глянуў у ліст і здзіўлена падняў бровы. "Кто вам писал заявление?" — "Я сам". Пасоп і напісаў "Отказать". Не даспадобы беларусы ўладам. Таму даводзілася ездзіць вахтавіком, г.зн., кожны месяц матляцца "тудэма-сюдэма". Я таму так часта і бываў там адзін, бо астатнія вахтавікі былі ў асноўным з Мінска і ад'язджалі звычайна ўсім кагалам. Ездзіць з трыма перасадкамі ўжо само па сабе цяжка. А тут увосень Расія пазбавіла Беларусь расійскіх грошай. А навошта "зайчыкі" ў Маскве? Вось і вымушаны я быў вярнуцца ў Маскву на старую працу. Але час ад часу кантактую з былымі сябрамі і ведаю, што ў запаведніку ўсё засталося паранейшаму. Хіба толькі горш зрабілася, як і ўсюды.

**Алесь ДРАЯНКОЎ**

*г.Масква*

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі*

*Х. Дунец* (1932-35)
*І. Гурскі* (1935-41)
*А. Куляшоў* (1945-46)
*М. Горцаў* (1947-49)
*П. Кавалёў* (1949-50)
*В. Вітка* (1951-57)
*М. Ткачоў* (1957-59)
*Я. Шарахоўскі* (1959-61)
*Н. Пашкевіч* (1961-69)
*Л. Прокша* (1969-72)
*Х. Жычка* (1972-76)
*А. Асіпенка* (1976-80)
*А. Жук* (1980-86)
*А. Вярцінскі* (1986-90)

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Юрась СВІРКА,
Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985**
**літаратурнага жыцця — 332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 332-204**
**паэзіі і прозы — 332-204**
**музыкі — 332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462**
**навін — 332-462**
**мастацкага афармлення — 332-204**
**фотакарэспандэнт — 332-462**
**бухгалтэрыя — 268-640**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6459.
Нумар падпісаны 19.10.1995 г.
Заказ 5333

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12